Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

**ЛіМ**

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 15 (4866) 15 красавіка 2016 г.



# З клопатам пра спадчыну



Фота Анатоля Клешчука.

## Узнагародай ад «*Europa Nostra*» адзначана праца па стварэнні музея ў Нясвіжскім палацы

**Цяпер гэта 30 выставачных залаў, якія паўсталі за вельмі кароткі перыяд (пасля таго, як палац пакінулі рэстаўратары), напаўняліся экспанатамі, рэчамі, цікавымі для наведвальнікаў...**

— У дасье, якое рыхтавалася яшчэ мінулай восенню, мы падрабязна апісалі, што прадстаўляе наш музей, як ён ствараўся. Гэта некалькі раздзелаў апісальнага тэксту і 30 фотаздымкаў у высокім разрашэнні, — тлумачыць Сяргей Егарэйчанка, намеснік дырэктара па выставачных праектах і гісторыка-культурнай спадчыне Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Нясвіж». — У якасці арганізацыі, якая намінавала наш музей, выступіў беларускі камітэт ІКАМОС на чале з Уладзімірам Гілепам. Але патрэбныя былі 4 рэкамендацыі аўтарытэтных асоб. Нас падтрымалі намеснік міністра культуры Беларусі Аляксандр Яцко, старшыня Таварыства аховы помнікаў Антон Астаповіч, брытанскі эксперт у галіне гісторыі архітэктуры Дэніс Родвэл і прадстаўнік роду, дзякуючы якому мы маем гэты палац, — Мацей Радзівіл. Узнагарода паважанай арганізацыі ў галіне аховы спадчыны «*Europa Nostra*» — гэта свайго роду «Оскар» для ўстаноў і асоб, якія працуюць у галіне культурнай спадчыны. Дарэчы, прэзідэнтам «*Europa Nostra*» з'яўляецца сусветна вядомы оперны спявак Пласіда Дамінга, які павінен быць адным з сувядучых цырымоніі ўзнагароджання. Разам з тым у нас застаецца шанец атрымаць адзін з 7 Гран-пры да таго прыза, які нам ужо прысуджаны.

Чытайце на стар. 3

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў дзяржаўнай установы «Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача» з 60-годдзем з дня заснавання тэатра. «Мінулыя гады сталі для вашага калектыву часам творчых адкрыццяў, пошуку ўласных мастацкіх шляхоў, стварэння новых, арыгінальных спектакляў для дзяцей і юнацтва. Багаты рэпертуар, які ўвабраў у сябе лепшыя ўзоры беларускай і сусветнай класікі, і таленавітыя акцёры далі магчымасць тэатру стаць адным з культурных сімвалаў нашай краіны. Не адно пакаленне беларусаў вырасла на яго спектаклях», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Пасля працяглага перыяду рэстаўрацыі стаў даступны для наведвання магільны склеп князёў Паскевічаў, размешчаны на тэрыторыі Гомельскага палацава-паркавага ансамбля. Урачыстая цырымонія адкрыцця гістарычнага аб'екта прайшла з удзелам дзяржаўнага сакратара Саюзнай дзяржавы Рыгора Рапоты падчас візіту на Гомельшчыну і старшыні Гомельскага аблвыканкама Уладзіміра Дворніка.

✔ Выстаўка «Узнагароды краін свету» з фондаў Тракайскага гістарычнага музея адкрылася ў Магілёўскім музеі этнаграфіі, паведамілі ў Магілёўскім аблвыканкаме. У экспазіцыі прадстаўлена больш як 120 ордэнаў і медалёў з 41 дзяржавы Еўропы, Азіі, Афрыкі, Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі. Вялікую частку складаюць старыя і новыя ўзнагароды Літоўскай Рэспублікі. Выстаўка, арганізаваная пры падтрымцы Пасольства Літвы ў Беларусі, рэалізуецца ў адпаведнасці з дамовай аб супрацоўніцтве Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы і Тракайскага гістарычнага музея. Яна таксама будзе прадстаўлена ў Гродне, Віцебску, Гомелі, у музеі-сядзібе М. К. Агінскага ў в. Залессе.

✔ У Ізраілі ў наступным годзе мяркуецца правесці Дні культуры Беларусі і Купалаўскія чытанні, прысвечаны 135-годдзю паэта. Праекты па развіцці беларуска-ізраільскага супрацоўніцтва ў культурнай сферы абмеркаваны падчас сустрэчы намесніка міністра культуры Беларусі Васіля Чэрніка і дырэктара Нацыянальнага гістарычнага музея Алега Рыжкова з віцэ-мэрам горада Ашдод Барысам Гітэрманам. У абмеркаванні ўзялі ўдзел Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Ізраілі Уладзімір Скварцоў і кіраўнік ашдодскага аддзялення Усеізраільскага аб'яднання выхадцаў з Беларусі Ісаак Цфасман.

✔ Сёння стартуе міжнародны конкурс творчых работ (эсэ) на тэму «Беларуска-кітайскае супрацоўніцтва. Шаўковы шлях і індустрыяльны парк "Вялікі камень" маімі вачамі». Арганізатары — радыё «Беларусь» Белтэлерадыёкампаніі сумесна з пасольствам КНР, Беларускім таварыствам дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі і Рэспубліканскім інстытутам кітаязнаўства імя Канфуцыя Белдзяржуніверсітэта. Творчыя работы на рускай, беларускай і кітайскай мовах можна дасылаць да 31 снежня.

✔ А ў Беларускім дзяржаўным універсітэце абвешчаны конкурс студэнцкіх работ па гісторыі «Агульны шлях да Вялікай Перамогі: подзвіг народа бессмяротны». Гэта сумеснае мерапрыемства гістарычных факультэтаў БДУ і МДУ імя М. В. Ламаносава. Матэрыялы прымаюцца да 1 мая на рускай або беларускай мовах. Публічная абарона студэнцкіх работ адбудзецца з 27 чэрвеня па 1 ліпеня на гістарычным факультэце БДУ.

## Да ведама

# Сертыфікат творцы

### Як паклапаціцца пра яго атрыманне?

**Міністэрства культуры Беларусі прадставіла тлумачэнні пра парадак выдачы прафесійнага сертыфіката творчага работніка тым асобам, каму ён неабходны, са спасылкай на заканадаўства.**



Фота Кастуся Дробава.

Статус творчага работніка — члена (удзельніка) творчага саюза пацвярджаецца непасрэдна самім творчым саюзам у адпаведнасці з яго статутнымі дакументамі, а статус творчага работніка, які не знаходзіцца ў творчым саюзе, пацвярджаецца прафесійным сертыфікатам, што выдаецца спецыяльнай экспертнай камісіяй. (Гэта прадугледжана Артыкулам 16 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб творчых саюзах і творчых работніках».)

Парадак выдачы прафесійнага сертыфіката творчага работніка, які не з'яўляецца членам творчага саюза, прадугледжаны Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26 красавіка 2010 г. № 200 «Об административных процедурах, осуществляемых государственными органами и иными организациями по заявлениям граждан».

Такім чынам, для атрымання прафесійнага сертыфіката творчага работніка грамадзянін падае заяву, па ўстаноўленай форме, і матэрыялы, якія пацвярджаюць выніκі творчай дзейнасці творчага работніка (творы мастацкай літаратуры і мастацтва, выкананні, публікацыі, рэцэнзіі, дакументы, якія пацвярджаюць наяўнасць званняў, прэмій, іншых заахвочванняў, і іншыя матэрыялы). Пры неабходнасці грамадзянін забяспечвае доступ да вынікаў творчай дзейнасці (творы манументальнага і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва і іншае).

Выдачу прафесійнага сертыфіката творчага работніка ажыццяўляе экспертная камісія па пацвярджэнні статусу творчага работніка, якая створана пры Міністэрстве культуры і дзейнічае ў адпаведнасці з Палажэннем аб экспертнай камісіі па пацвярджэнні статусу творчага работніка, якое зацверджана пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 24 мая 2000 № 747.

Крытэрыямі ацэнкі вынікаў творчай дзейнасці для выдачы названай камісіяй прафесійнага сертыфікату творчага работніка з'яўляюцца:

- вынікі творчай дзейнасці павінны быць новымі, якія не існавалі раней, самастойнымі вынікамі інтэлектуальнай дзейнасці;
- вынікі творчай дзейнасці павінны адносіцца да твораў мастацкай літаратуры і мастацтва і іншых вынікаў у галіне культуры, мастацтва і іншай культурнай творчай дзейнасці;
- прафесійны мастацкі ўзровень вынікаў творчай дзейнасці;
- апублікаванне, публічнае выкананне, публічны паказ, даведзенне да ўсеагульнага ведама або іншыя спосабы, якія робяць вынікі творчай дзейнасці даступнымі публіцы (не менш за два разы ў год на працягу апошніх трох гадоў);
- наяўнасць дзяржаўных узнагарод, званняў лаўрэата, дыпламанта міжнародных, рэспубліканскіх, рэгіянальных культурных мерапрыемстваў і іншых заахвочванняў за вынікі творчай дзейнасці на працягу апошніх трох гадоў.

Прафесійны сертыфікат творчага работніка выдаецца бясплатна ў месячны тэрмін з дня падачы заявы і дзейнічае 5 гадоў.

З 23.07.2015 г. па 31.03.2016 г. адбылося 10 пасяджэнняў экспертнай камісіі па пацвярджэнні статусу творчага работніка. Экспертнай камісіяй было разгледжана 47 заяў прэтэндэнтаў на атрыманне статусу творчага работніка. Па рашэнні экспертнай камісіі, 26 прэтэндэнтам, якія пацвердзілі статус творчага работніка, быў накіраваны прафесійны сертыфікат.

## Фэсты

# Людзі, лялькі і рок-н-рол

### У Мінск прывязуць спектакль, адзначаны расійскай тэатральнай прэміяй «Залатая маска» ў чатырох намінацыях

Пензенскі абласны тэатр «Лялечны дом» з пастаноўкай «Забіць Караля» (паводле Славаміра Мрожака) стане ўдзельнікам IX Міжнароднага фестывалю тэатраў лялек, які пройдзе ў сталіцы ў сярэдзіне мая.

Гэтага міжнароднага фестывалю беларускія тэатры чакаюць асабліва: ён ладзіцца раз на 2 гады. Сёлета чакаем удзельнікаў з Ізраіля, Польшчы, Літвы, Украіны, Расіі і Беларусі. Нашых пабачыць не менш цікава, таму што ёсць калектывы, рэжысёры, тэатры, якіх чакаюць на самых прэстыжных фестывалях свету. Нашы «лялечнікі» цяпер у галаве тэатральнага працэсу, таму што не баяцца эксперыментаваць, уздымаць сур'ёзныя тэмы, прадстаўляючы іх у адметнай манеры, дзе лялькі і людзі на сцэне арганічна ўзаемадзейнічаюць. Фэстываль — гэта, можа быць, магчымасць для разбурэння міфаў пра лялечны тэатр: ён розны і для рознай аўдыторыі. Арганізатары Мінскага фестывалю тэатраў лялек звычайна стараюцца прадставіць калектывы, што працуюць у розных жанрах, кірунках. Гэта тэатры дзяржаўныя, акадэмічныя і прыватныя.

Таму пра квіткі на 5 фестывальных дзён, за якія ёсць магчымасць паглядзець 14 спектакляў, трэба паклапаціцца загадзя. Тэатрам лялек з розных краін для паказаў аддадуць 5 пляцовак (спектаклі пройдуць на сцэнах лепшых тэатраў Мінска). І яшчэ: фестываль — гэта магчымасць абмену вопытам, навучання, майстар-класаў. Час тэатральнай музыкі: гурт «Нагуаль» рыхтуе праграму «Лялечны рок-н-рол».

**Марыя АСІПЕНКА**

## Цікавы досвед

# Кветка малой радзімы

**Літаратурны куток пад такою назваю адкрылі нядаўна ў Лойкаўскай сярэдняй школе.**

Адбылося гэта падчас семінара настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры Гродзенскага раёна па тэме «Развіццё духоўнай, эмацыянальнай, эстэтычнай культуры вучняў праз творы беларускіх пісьменнікаў». Куток прысвечаны творчасці дзіцячай пісьменніцы Ганны Скаржынскай-Савіцкай. Летась, падчас Свята беларускага пісьменства і друку ў Шчучыне, на сваёй малой радзіме, яна атрымала Першую нацыянальную літаратурную прэмію ў намінацыі «Лепшы твор для дзяцей і юнацтва 2015 года». У мінулым годзе Ганна Скаржынская-Савіцкая азначана і прэміяй А. Дудко Гродзенскага аблвыканкама «За творчыя дасягненні ў галіне культуры і мастацтва» ў намінацыі «Пісьменнік 2014 года».

Лойкаўская СШ, якая мае краязнаўчы кірунак, — адна з лепшых у Гродзенскім раёне. Тут працуе краязнаўчы музей «Вытокі», а кожны клас мае адметнасць: куточак «Бабуліны вышкі», «Вёсачка мая», «Нашы святы»… Важкасць справы, якую робяць настаўнікі роднай мовы па папулярызацыі творчасці беларускіх аўтараў, у тым ліку і гродзенскіх, адзначыла старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Людміла Кебіч, якая разам з Ганнай Скаржынскай-Савіцкай пабывала на адкрыцці літаратурнага кутка.

Пісьменніцы наведалі школу ўжо не ўпершыню. Яны бралі ўдзел у пазакласным мерапрыемстве «Чароўны куфэрак "Залацінкі народнай мудрасці"», якое падрыхтавала і правяла настаўніца беларускай мовы і літаратуры Леакадзія Сялецкая. Менавіта гэтым «народным залацінкам» і прысвечана кніга Ганны Скаржынскай «Кветка малой радзімы», у якой творца праз казкі і апавяданні патлумачыла сэнс 50 беларускіх прыказак і прымавак.

**Людміла ЯРМАК**

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

*З нагоды*

# З клопатам пра спадчыну

**Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж» удастоены прыза «*Europa Nostra — 2016*» у катэгорыі «Адданая служба».**

Сёлета журы прэміі адзначыла Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж» за стварэнне музея ў нядаўна адноўленым, усяго за некалькі месяцаў, палацы Радзівілаў. Факты аддаленасці аб'екта ад абласных гарадоў і сталіцы, а таксама наяўнасць пашкоджанняў, ад якіх палац пакутаваў на працягу некалькі дзесяцігоддзяў, не сталі перашкодай.

Праект стварэння музея з самага пачатку быў маштабным: уключаў уладкаванне трыццаці экспазіцыйных залаў і фонды, у якіх захоўваюцца каля дваццаці тысяч прадметаў гістарычнай каштоўнасці. Пасля аднаўлення палаца ў Нясвіж штогод прыязджаюць каля чатырохсот тысяч чалавек, сярод якіх прадстаўнікі як Беларусі, так і іншых краін.

Цырымонія ўзнагароджання прэміі адбудзецца ўвечары 24 мая ў тэатры «Сарсуэла», у Мадрыдзе. Але перад гэтым, раніцай, усе пераможцы на спецыяльнай цырымоніі ў штаб-кватэры Каралеўскай школы архітэктуры ў Мадрыдзе прадставяць свае дасягненні. Да ведама: гэта ўжо другі выпадак, калі Беларусь атрымлівае ўзнагароду ад «*Europa Nostra*». У 1993 годзе еўрапейская арганізацыя адзначыла праект Мірскага замка за аднаўленне і рэстаўрацыю.

«*Europa Nostra*» — вядучая еўрапейская арганізацыя ў галіне папулярызацыі і аховы культурнай спадчыны і прыроднага асяроддзя, якую падтрымлівае шырокая сетка дзяржаўных органаў, прыватных кампаній і фізічных асоб. З 1963 года агульнаеўрапейская федэрацыя асацыяцый займаецца стымуляваннем строгіх стандартаў у галіне аховы гісторыка-культурнай спадчыны. Прыз «*Europa Nostra*» прысуджаецца за выдатныя дасягненні ў краінах, якія не прымаюць удзел у праграме Еўрасаюза «Крэатыўная Еўропа».

**Вікторыя АСКЕРА**

*Стасункі*

# «Беларуская дыяспара ў Францыі вельмі актыўная»

**Гэта адзначыў пасол Беларусі ў Францыі, Пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ЮНЕСКА Павел Латушка ў інтэрв'ю часопісу «Дарадца» (Францыя).**

«Па нашых падліках, у Францыі жыве каля 5000 — 6000 беларускіх грамадзян, хоць гэтая статыстыка адносная і патрабуе ўдакладнення. Беларускі народ не схільны да актыўнай міграцыі, а Францыя не знаходзіцца ў ліку прыярытэтных краін для беларусаў згодна з іх пажаданнямі пражываць за мяжой», — адзначыў Павел Латушка.

Аднак у Францыі актыўна працуюць асацыяцыі «Беларт» у Ліёне, беларуская асацыяцыя ў Тулузе, асацыяцыі «Жыццё ў музыцы» і «Дыялог Францыя — Беларусь» у Парыжы. Пры падтрымцы пасольства была створана асацыяцыя «Культурны цэнтр Беларусі ў Францыі». Таксама прадстаўнікі беларускай дыяспары дапамагаюць наладжваць эканамічныя сувязі.

Каб гэтыя людзі адчувалі сувязь з гістарычнай радзімай, для іх праводзяцца трыдыцыйныя святы. Пачынаючы з 2014 года адзначаецца Купалле. Свята адбывалася на мосце праз Сену насупраць Эйфелевай вежы. Дзяўчаты кідалі вянкі і прапаноўвалі французскім хлопцам нырнуць у Сену, каб злавіць вянок, тады дзяўчына абавязана пайсці замуж за таго, хто гэта зробіць. Аднак французскія кавалеры не зразумелі свайго шчасця. Святкаванне беларускіх Калядаў у Парыжы выклікала вялікую цікавасць не толькі ў беларусаў, але і ў прадстаўнікоў рускай дыяспары і саміх французаў.

Наогул, у 2014 годзе Пасольствам Беларусі ў Францыі было праведзена 38 мерапрыемстваў у 38 гарадах, якія наведалі 150 000 французаў. У 2015 годзе іх было 36 у 36 гарадах, і таксама каля 150 000 наведвальнікаў.

Сёлета, 26 мая, адкрыюцца «Першыя беларускія музычныя сезоны» разам з асацыяцыяй «Жыццё ў музыцы» з удзелам маладых беларускіх музыкантаў. Упершыню наша краіна з беларускім павільёнам прыме ўдзел у «Восеньскім салоне» на Елісейскіх палях у кастрычніку. У той жа час Парыж пачуе «Песняроў», якія былі ў Францыі разам з Уладзімірам Мулявіным 40 гадоў таму назад.

*Майстар-клас*

# Карціна нафтай

## Расійскі мастак вучыў мінчан выкарыстоўваць у творах прыродны матэрыял

**Мастак з Санкт-Пецярбурга Віталь Касаткін прадставіў у Мінску творы з нафты на выстаўцы, прысвечанай Дню яднання Беларусі і Расіі. Вартасці «матэрыялу яднання» ён прадэманстраваў падчас адкрытага майстар-класа па роспісе карцін нафтай.**

Нацыянальны цэнтр сучасных мастацтваў (пр-т Незалежнасці, 47) на пэўны час ператварыўся ў майстэрню, дзе рэзкі пах нафты змяніў звыклыя пахі акварэльных фарбаў. Аўтар выстаўкі прадаставіў удзельнікам неабходныя кампаненты для працэсу, паказаўшы асноўныя прынцыпы ўзаемадзеяння пэндзляў, палатна і прыроднага кампанента.

Нафта па сваёй прыродзе некапрызны матэрыял. Яна жорстка структуравана і беспраблемна ўсмоктваецца па зададзеным аўтарам рэчышчы на любой мастацкай аснове: кардоне, дрэве альбо тканіне. З яе можна зрабіць графічную, лёгкую акварэльную работу, якая будзе нагадваць стары, прасякнуты гісторыяй фотаздымак, па жывапісных прасторах якога глядач абавязкова захоча прагуляцца.



*Выніковая работа ўдзельнікаў майстар-класа.*

Віталь Касаткін доўгі час працаваў у тэхніцы рэльефнага жывапісу. Але для дасягнення незвычайнасці, арыгінальнасці адценняў у асобных дэталях у Міжнароднай гільдыі майстроў яму прапанавалі паспрабаваць выкарыстоўваць нафту: яна ідэальна падыходзіла да яго стылістыкі. Напачатку мастак нікому не расказваў пра захапленне жывапісам нафтай: вывучаў асаблівасці, тонкасці разыходжання «чорнага золата» на палатне. Цяпер майстар прызнаецца, што працаваць з нафтай яму аказалася прасцей, бо яна адрозніваецца па сваіх уласцівасцях ад іншых мастацкіх матэрыялаў. Сёння творца працуе не пэндзлем, а інструментам, што дазваляе вымалёўваць тонкую рэльефную ніць. Мастак цалкам памяняў фарбы на нафту, якая здолела замяніць іх у поўным аб'ёме.

Яна налічвае шэсцьдзясят чатыры адценні, унікальнасць якіх залежыць ад метаду здабычы і месца радовішча. Напрыклад, на Сахаліне нафта заўважна адрозніваецца па тэкстуры ад нафты, якая здабываецца ў Татарстане, Астрахані альбо Рэспубліцы Комі.

Сёння мастак рыхтуе яшчэ адну цікавую экспазіцыю пад назвай «Сто цудаў Расіі і Беларусі», якую ў хуткім часе плануе таксама прывезці ў Мінск. На тэрыторыі нашай краіны ён вылучыў некалькі прыгожых месцаў, якія, на погляд майстра, недаацанілі ў свеце. Ён перакананы, што такія аб'екты, як Мінскі, Нясвіжскі, Ашмянскі і Лідскі замкі, з'яўляюцца візітнай карткай беларускіх тэрыторый, і ўпэўнены, што іх трэба праслаўляць.

**Вікторыя АСКЕРА, фота аўтара**

*Дайджэст*

• Лонданцы ўратавалі ад закрыцця маленькую кнігарню. Восем гадоў таму два сябры-кнігалюбы Цім Вест і Сайман Кі спраўдзілі мару, адкрыўшы кніжную краму «Біг Грын Букшоп» («Вялікая зялёная кнігарня»). Сціплы бізнес не прыносіў вялікага прыбытку, але займеў сталых пакупнікоў. І нядаўна праз даверлівасць гаспадароў кнігарня была абрабаваная: злодзей скарыстаўся момантам, калі каса засталася без нагляду, і вынес усе наяўныя грошы. Пра здарэнне Сайман Кі напісаў у Твітары: «Няхай гэта і невялікія, на першы погляд, грошы, але для нас 600 фунтаў — сур'ёзны ўрон. Бо гандаль кнігамі не прыносіць вялікага прыбытку…» У адказ многія сябры кнігарні захацелі дапамагчы матэрыяльна. Сума ахвяраванняў ужо склала 2400 фунтаў. Як паведамілі прэсе Сайман, валанцёры дапамаглі ім адкрыць кнігарню, а цяпер ўратавалі яе ад банкруцтва. Між тым збор сродкаў працягваецца.

• Вершы Джона Ленана выйдуць асобнай кнігай дзякуючы клопату праваахоўнай арганізацыі *Amnesty International*. Маляўнічы зборнік будзе суправаджацца яркімі мастацкімі работамі. Як патлумачылі ў штабе арганізацыі, кніга задуманая з мэтай выхавання ў дзяцей і моладзі пачуцця міласэрнасці, і вершы Ленана надзвычай гэтаму спрыяюць: музыка быў вядомым міратворцам, прысвяціў шмат песень тэме міру і любові. Аўтарам ілюстрацый стаўся Джын Джуліян, які аздобіў нямала дзіцячых кніг у ЗША і Брытаніі. Мастацкім лейтматывам кнігі ён абраў голуба. Зборнік названы па адным з вершаў Ленана «*Imagine*» («Уяві») і выйдзе ў верасні 2017 года ў выдавецтве *Frances Lincoln Children's Books*.

• Хол штаб-кватэры *BBC* упрыгожыць статуя былога супрацоўніка кампаніі, пісьменніка Джорджа Оруэла. Навіна тым больш цікавая, што чатыры гады таму *BBC* адмовілася ад гэтай ідэі праз левыя погляды Оруэла. Бронзавую скульптуру пісьменніка, «у іранічнай позе і з цыгарэтай у руцэ» паводле апісання, стварыў Марцін Джэнінгсан. На пастаменце выгравіраванае выказванне Оруэла: «Калі свабода нешта значыць, дык гэта права казаць людзям тое, што яны не жадаюць чуць».

• Вядомы гісторык і літаратуразнаўца Леў Лур'е анансаваў новую кнігу, у якой пазнаёміць чытача з памятнымі месцамі, звязанымі з імем Сяргея Даўлатава. Аўтар скрупулёзна даследуе ўсе адрасы, так ці інакш датычныя да творчасці Даўлатава: рэстараны і кафэ, дзе пісьменнік сустракаўся з сябрамі, адрасы рэдакцый, з якімі той супрацоўнічаў, нават маршруты грамадскага транспарту, якімі часцей за ўсё карыстаўся Даўлатаў. Даведнік, названы «Ленінградам Даўлатава», ахопіць усе перыяды жыцця пісьменніка. Кніга выйдзе ў верасні гэтага года. Плануецца, што ў прэзентацыі выдання ў Санкт-Пецярбургу возьмуць удзел родзічы Даўлатава.

• Ужо ў гэтым месяцы кампазітар і прадзюсар Кім Брэйтбург пачне ў Мінску працу над двума мюзікламі. Мастацкім кіраўніком першай пастаноўкі, пад назвай «Казанова», выступіць спявачка Ірына Дарафеева, загадчыца кафедры мастацтва эстрады ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Ролі ў мюзікле выканаюць студэнты той жа навучальнай установы. Другі мюзікл, «Джэйн Эйр», створаны паводле аднайменнага рамана Шарлоты Бронтэ, будзе пастаўлены ў Музычным тэатры.



Уладзімір МАЗГО

***

У вочы нам глядзіць
Абсяг, абраны лёсам,
Дзе зоркі дагадзіць
Стараюцца нябёсам.

Дзе вечнасць на зямлю,
Як шчодры дождж, ліецца.
Зямлю, што я люблю
Здавён душой і сэрцам.

Дзе кожны новы дзень
Надзею набліжае,
Што болей нам нідзе
Ніхто не пагражае.

Радзімы берагі
Спрыяюць чалавеку,
Як прашчураў багі,
Шануем што спрадвеку.

А хмара набяжыць —
Ёй сонейка не ўкрасці,
Дзе мы з табою жыць
Нязменна лічым шчасцем.

***

Ах, птушка акальцаваная,
Ты, ветрам зацалаваная,
Спяшаеш дадому з выраю,
Чаруючы песняй шчыраю.

Чакае гняздзечка роднае,
Таму вышыня зваротная
Здаецца табе няспыннаю
Над мілай тваёй краінаю.

Ах, птушка акальцаваная,
Ты, ветрам зацалаваная,
Ідзеш на пасадку з радасцю,
Натхняючы нас упартасцю.

Навокал — усё знаёмае.
Ускрыкнула птушка:
«Дома я!..»
Аж сэрцайка страпянулася,
Як птушка дамоў вярнулася.

***

Нам прырода
Падорыць правы
Дакранууца
Душой да травы,

Акунуцца
У хвалі лісця,
Захлынуцца
Вінoм пачуцця —

Там, дзе радасць
Звініць жаўруком,
Там, дзе шчасце
П'яніць раўчуком,

Дзе растануць,
Як воблакі, сны
У бяздонных нябёсах
Вясны.

## Запалі агонь

(паводле верша М. Траццякова)

Агонь уночы запалі,
Мяне ад цемры затулі.
Спяшай, навошта мне чакаць.
Хто ты? І дзе цябе шукаць?
Палі агонь, палі хутчэй.
Хай неба свеціцца ярчэй.

Прыйдзі святлом маёй душы.
Хто ты — мне толькі адкажы.

Агонь уночы запалі,
Мяне ад цемры затулі.
Цябе пазнаю па вачах,
Пяшчотных трапяткіх руках.
Я клічу цемені назло.
І мы спяшаем на святло —
Два закаханых матылі.
Агонь уночы запалі!..

Палі агонь, табе шапчу.
Знайсці цябе ўначы хачу.
Зноў азіраюся кругом:
Адчыніш дзверы у мой дом,
Адкрыеш сэрца і душу.
І я ласкава запрашу:
Агонь уночы запалі,
Мяне ад цемры затулі.

Я словы тыя паўтару —
І у агні з табой гару,
Каб стала ноч гарачым днём
Для нас, ахопленых агнём.
Паміж нябёсаў і зямлі
Агонь уночы запалі!
Няхай гарыць ветрам назло
Тваё нязгаснае святло.



Дзмітрый ДЗЕМІДОВІЧ

***

Для мяне ты ніхто, ды сустрэліся вось —
Нас начная зваля электрычка.
…Не чужая ты мне, для цябе я не госць.
А за вокнамі падалі знічкі.

Так бывае, убачыш адзін толькі раз
Чалавека, а быццам з маленства знаёмы.
І ляціць неўпрыкмет засцярожаны час,
І дарога канчаецца ўмомант.

А вакзал, нібы тая знянацку мяжа
Развядзе, бо наспела расстанне.
Толькі потым адчуецца нейкі цяжар…
А магла ж стаць сустрэча каханнем!

## Вятрак

Пахіліўся ад часу вятрак —
Не патрэбен ужо стаў больш людзям —
І стаіць на пранізных ветрах
Адзінокай фігурай на грудзе.

А кругом параслі палыны,
А кругом пустазелле ўзнялося.
І шумяць, і гамоняць яны,
Мне ж здаецца — нібыта галосяць.

Колькі радасці людзям ён нёс
І як весела жорны спявалі!
І ячмень, і жыты, і авёс
Мучной рэчкай з яго выцякалі.

Адляцелі гады ўдалячынь,
Не спявае больш светлыя песні
І цяпер не гудзе, не крычыць,
Як бывала раней напрадвесні.

## Прыцягненне

Боль у сэрцы маім,
Слёзы-соль пад павекамі,
Я аддадзены жыццём
на стаптанне нялёгкіх дарог…
Дабяруся, прыйду,
прыпаўзу хоць калекам я
На бацькоўскі
адзіны радзімы парог.

Тут абудзяць мяне
мацярынскім крокамі,
Утаймуюць яны
горыч, крыўду і сум.
Не сустрэнуць мяне
тут ганьбой і папрокамі,
Забароны няма
для дапытлівых дум.

Тут чакаюць мяне
днём і ў ночку грымотную —
Я хвілін не лічыў,
за мяне гэты лік правялі.
Дарагія мае,
незабыўныя, родныя!
Як жа жыў я без вас,
як жа вы без мяне пражылі?

Прызнаю я віну —
беганіна, ўсё некалі…
То адно, то другое,
то нейкі там доўг…
Дабяруся, прыйду,
прыпаўзу хоць калекам я
На бацькоўскі
адзіны радзімы парог.

***

Так бывае — у снах прыплываюць
Новых вершаў жывыя радкі.
А паднімешся — хутка знікаюць,
Быццам змытыя хваляй ракі.

Пасля ходзіш і доўга шукаеш
Іх у памяці смутнай сваёй
І міжволі пасля ўсё чакаеш —
Сон той прыйдзе парой зноў начной.

***

Шумяць пад ветрам чараты,
Шліфуюць стан іх тонкі хвалі.
Па берагах лазы кусты
Шатрамі казачнымі сталі.

Садзіцца сонца, і прамень
Уздоўж ракі пралёг спралою,
Нібыта вечару ўжо дзень
Прызначыў шлях такі сабою.

І раптам цуд: нібы з часоў
З такіх туманных і пасматых
Раздаўся вокліч галасоў —
І да ракі бягуць дзяўчаты.

Вянкі пускаюць па вадзе,
Ды пра сябе цвярдзяць замовы:
— Каханы мой, ты ходзіш дзе?
Калі ж вяночак ты мой зловіш?

А потым сотняй дэцыбел
Дынамік ляснуў што ёсць моцы.
Ну а вянкі плылі сабе,
Плылі да мора ў адзіноце.



Фота Кастуся Дробава.

## Дэбют



Кацярына ГЛУХОЎСКАЯ

## Грэцкія арэхі і міфы на лецішчы

***

Дзіцятка плача: «Хто такі
пакутнік?» —
Працягвае яму лісток-трыпутнік.
Вялікая вясна: туга і снег.
А лета не для ўсіх. А лета — бег
На раніцы да ружаў небасхіла
І пятачкі нацёртыя Ахіла.

***

На самы дах, да галубоў, шпакоў,
Шклаваты жоўтай ды іржы цвікоў —
Агня ды сонца — дошак шалупіння,
Сухіх цыбулін. Там багі, багіні,
Як на Алімпе, п'юць нектар і мёд,
Смяюцца, танчаць, бавяць новы год.
Ніхто не бачыў іх, а ты ўглядзеўся —
І сам світанкам сціплым заірдзеўся.

***

Ляжаць у гамаку і слухаць сон
Пад яблыняй, пакуль не прыйдзе скон, —
Юначых летуценняў посвіст птушак.
Ты бачыш, Зеўс агонь рукамі тушыць —
І попел абляятае да зямлі.
Па лытакі сваe ногі загалі,
Не перапэцкай ды не апаліся.
Ідзі ў свой лес. Крадзі агонь. Маліся.

***

Мінае лета. Чоўнік прыплыве
Па хвалях Леты, па расе ў траве
Не за табой, а за тваім дзядулем,
Бабуляй, татам, маці. І ў агуле
Ты бессмяротны будзеш тут адзін.
І толькі кажуць звонікі «дзін-дзін»
З пяшчотнай выі, суцішаюць быццам.
Ты спіш ці не? Прачнуцца ці забыцца?
І гладзіш у кароўкі круглы бок.
І плачаш, як пакінуты паўбог.



Георгій МАРЧУК

# Суседзі

*Казка*

У вёсцы Вялікія Баяры жыў дваровы сабака па мянушцы Кантроль, а побач з ім — дваровы сабака па мянушцы Чых. Вы спытаеце: чаму Кантроль? Адкажу. Таму, што ягоны гаспадар у свой час служыў мытнікам і прывык, каб усё рабілася згодна з законам, належным чынам і ў адпаведнасці з праўдай. А чаму Чых? Таму, што яго гаспадар быў настаўнікам біялогіі ў мясцовай школе, пакуль на пенсію не пайшоў. У іхняй гаспадарцы — куры, качкі, гусі і козы, а яшчэ кветкі, паўсюль кветкі. Іх і любіў нюхаць сабака, а як нанюхаецца, дык адразу пачынае чхаць. Вось і далі яму мянушку Чых. Абодва сабакі былі невялікія, не такія, як аўчаркі ці бульдогі, але і не маленькія, як, скажам, таксы ці балонкі. І колеру яны былі амаль аднолькавага — абодва светла-карычневыя, можна сказаць, вогненныя. Кантроль меў на лбе белую пляму, а ў Чыха з белымі плямамі пярэднія лапы. Чых быў акуратны, сачыў, каб лапы ў яго заўсёды былі чыстымі, не качаўся ў пяску, у гразі і лужынах. Ды не заўсёды тое атрымлівалася, бо вартаваў ён падворак з раніцы і да самага вечара. То даводзілася яму выганяць нежаданага госця — ката Вахцёра, які таксама жыў у мытніка і сваім з'яўленнем заўсёды палохаў кур; то праганяў вераб'ёў, то суправаджаў коз на луг, а ўвечары прыганяў карову… ды ці мала якія справы яшчэ былі: паспявай толькі завіхацца без адпачынку.

Кантроль жа выконваў свае абавязкі толькі ўначы. Яго гаспадар не меў у двары свойскай жывёлы, хіба што толькі дзясятак курэй ды козачку. Быў у іх вялікі сад. Злодзеяў у Вялікіх Баярах не было. Шмат хто з жыхароў таксама меў сад, але Кантроль трымаў парадак. Давярай, ды правярай. Усе ведалі, што мытнік і стрэльбу паляўнічую мае, аднак жа хадзіў ён на паляванне нячаста.

Удзень Кантроль з задавальненнем адпачываў ды спаў ажно да абеду, потым ішоў разам з гаспадаром да крамы, частаваўся марожаным ды пячэннем. Вярталіся дамоў, слухалі музыку ці глядзелі па тэлевізары серыялы пра розных звяроў і падарожжы.

Чых надта ж зайздросціў такому вольнаму жыццю свайго суседа. Але і Кантроль зайздросціў Чыху. Чых жа ўсю ноч спаў, а Кантроль вачэй не заплюшчваў, вартаваў падворак.



Фота Кастуся Дробава.

— У цябе, Кантроль, лепшае жыццё. Увесь дзень вольны, а я са скуры вылузваюся, абавязкі свае выконваючы, — скардзіўся Чых сябру-суседу.

— Не гавары. І мне не заўсёды соладка, — адказваў Кантроль.

— Ці ж табе скардзіцца! Што там ноч перабыць… Усё ж такі і ўначы паспаць можна трохі, — не згаджаўся Чых. — Я б найлепшую костку аддаў за адну такую ноч.

— Ну добра. І без костачкі абыдземся, мы ж суседзі — сябры. Хочаш, памяняемся месцамі? Хоць на адзін дзень, — прапанаваў Кантроль.

— Ура! — усклікнуў з радасці Чых. — На тыдзень, не, лепей на месяц… Згодзен!

Для Кантроля ж гаспадар, як надарацца спякотныя дні, ля кануры вентылятар уключае. Вось гэта жыццё дык жыццё! Ля тэлевізара разам сядзяць, і ён жа, Чых, без дазволу баіцца і парог гаспадарскага дома пераступіць. А Кантроль у сваю чаргу падумаў: «Якая мне розніца, дзе да абеду спаць?» На тым і паразумеліся.

Гаспадар паехаў у горад да сваіх дзяцей, абяцаў вярнуцца на наступны дзень увечары.

І вось надышла ноч. Сеў Чых ля кануры Кантроля і пачаў прыслухоўвацца да начной цішыні. Ды не доўга цішыня панавала. Кот Вахцёр падслухаў размову Кантроля і Чыха і вельмі ўзрадаваўся. Будзе магчымасць папсаваць нервы Чыху, які не любіў цікаўнага назолу-ката і праганяў яго прэч ад плота і са двара.

Толькі збіраўся Чых прыснуць, ды дзе там! Пагасла святло ва ўсіх вокнах, на слупе ля дома, і зрабілася раптам цёмна-цёмна. Цемру і скарыстаў кот Вахцёр: скокнуў на будку. Зірнуў Чых і ледзь прытомнасць не страціў: што гэта за агеньчыкі таямнічыя ў цемры свецяць?! Сцішыўся Чых, стаіўся, а Вахцёр як зашыпіць! Зусім страціў голас Чых ад страху, а кот ужо на плоце. Праляцеў міма Чыха начны кажан, што жыў у адрыне. Птушка села ля калодзежа — і пачуліся раптам дзіўныя гукі, ад якіх дрыжыкі пабеглі па Чыхавай скуры. Раптам пад'ехала чужая машына, з якой даносілася гучная музыка. На ганак выйшла сонная гаспадыня:

— Ану, сабака, прагані непатрэбных гасцей! Спаць не даюць.

Чых і не ведаў, як іх прагнаць. Асцярожна падышоў да плота, слабенькім галаскам цяўкнуў раз-другі, але парушальнікі яго нават не пачулі. Адзін з «гасцей» схапіў палку:

— Пайшоў на месца!

І Чых падаўся назад, да будкі. Праўда, праз якую хвіліну «госці» і самі з'ехалі.

Чых вачэй не заплюшчыў. З адрыны пачуліся віскат і шамаценне. Гэта выйшаў на паляванне тхор — начная жывёліна. Куры ўсчалі лямант. Чых не ведаў, што і рабіць, зашыўся ў кут. Ды дзе там! Вахцёр з'явіўся на будцы і пачаў шкрэбсці дах.

— Ідзі прагані тхара! — загадаў ён Чыху.

Чых асцярожна наблізіўся да адрыны і зарычаў. Куры нібыта супакоіліся. Тхор, відаць, таксама напалохаўся і ўцёк. Толькі Чых вярнуўся да кануры, перадыхнуў ад страху, напіўся вады з міскі, як пачуў, што нехта стукаецца ў дзверы адрыны. Гэта казлянё выпрабоўвала моц сваіх рогаў. Зноў куры пачалі лямантаваць. Чыху ад бяссілля захацелася плакаць. Зноў прыляцеў кажан і апусціўся на плот. І так усю ноч.

А што Кантроль, спытаеце вы? Ноч прайшла спакойна. Ён хацеў, як звычайна, спаць да абеду, але не атрымалася. Пачаліся дзённыя клопаты і абавязкі. Ледзь развіднела, пабудзіў яго гаспадар і загадаў выправіць карову на луг. Вярнуўся з луга Кантроль, а тут куры, гусі ды качкі лезуць у будку. Пазнаёміцца хочуць? Не да іх — так хочацца спаць! Напалохаў іх гучным брэхам. Певень заступіўся за кур: наляцеў на сабаку, той ледзь уратаваўся ад ягонай дзюбы. Гаспадар зноў загадвае:

— Аднясі, братка, сумку з яблыкамі маёй сваячцы на другі канец вёскі.

Кантроль бярэ ў зубы сумку і выпраўляецца ў дарогу. Зубы баляць, сківіца ные: непрывычны ён да такой працы.

Так, у клопатах ды справах, і дзень прайшоў. Ніхто яго марожаным не частаваў, не да таго было. Не захацеў Кантроль больш такога жыцця, ужо лепей у сябе, на родным падворку. Пра тое ж думаў і стомлены ды знясілены Чых, калі яны сустрэліся. Ужо хай побач будуць куры, гусі, качкі ды козы, чым гэтыя начныя страхі. Сустрэліся яны і вырашылі больш месцамі не мяняцца. Кожны быў задаволены, што вярнуўся да свайго справы, на свой двор, дзе яго цанілі, паважалі за службу і любілі за добры нораў. Як у той прыказцы: «Не шукай шчасця ў чужых краях — дзе нарадзіўся, там і прыдаўся».

# Час і месца

*Зрыфмаваная проза*

## Перад аркушам паперы

Пішуць паэты пра волю ды беларускую долю. Пра радзіму, маці, каханне, да вытокаў сваіх вяртанне пішуць. Пра горад, мястэчка, сяло, пра тое, што калісь было. Яшчэ — пра цымбалы, жалейку, дуду, пра гора, пра слёзы, бяду. Пра майскую квецень ды неба сінь. Згадаюць пра Нёман, азёры і рэчку Гарынь. Хтосьці піша пра Хомку, аднакласніцу Томку. Пішуць паэты. Сёе-тое друкуюць газеты. Часам вяртаюць назад. Паэт не крыўдуе. Усё ж прачыталі і гэтаму рад. Славы паэтаў я не шукаю, якую паслаў мне Бог долю, такую і маю, праўда, здараецца, сказы ў рыфмы складаю. Тое, што сёння ў сэрцы нашу, пра тое сціпла пішу.

## Пажар царквы

На нашай гары царква гарыць. Бягуць людзі. Ой, што ж будзе, за што прагневаўся Бог? Гэта ж не сена стог. Можа, за тое, што гарэлкі шмат пілі, мала дзетак пад сэрцам насілі. Можа, яшчэ і таму, што рабавалі казну. А яшчэ свайго цураліся, забыліся, як зваліся. Нас не любілі, і мы не любілі. За тое царкву і згубілі.

## Крос каля Хоцімска

Іду басанож у вёску і ўспамінаю былыя вёсны. Даганяюць спартсмены. Крос. Бягуць дзяўчаты: фігуры багінь, з твару прыгожыя. Калісь бегаў і я, калі падрос. Згубіла адна заколку з валос. Я падняў і даганяць. Будзе падстава прыгажуню абняць. Што маю сілы даганю я дзяўчо. Трохі яшчэ і крану за плячо. Раптам пачуў за спінаю голас. Думаў, шапоціць жытнёвы тут колас. «Хто ты?» — сурова пытаюся я. Чую адказ: «Што так задыхаўся, сядзь, адпачні. Табе не чужая. Я, брат, свая. Я, сівы дзядзька, старасць твая».

## Бяссонніца ў Мінску

Паверхам вышэй. Навіна да вушэй. Асалода для чэрца і нават надзея. Тупае ножкамі трохгадовая Надзея. Не плача, а скача. Ёй бяссонніца ў радасць. Я не спаў мо гадзіну, другую. Тупат і смех яе чую. Трывога мая гоіцца. Дзякую Богу за дапамогу. Бяссонніца — гэта ж не грэх, як сярод ночы дзяўчынкі смех. Таксама не грэх. Яна — напамін пра былыя грахі, калі да чужога гора быў я сляпы і глухі. Гэта бяссонніца.

## Немажлівае вяртанне

Ішоў праз сорак год я на спатканне з каханнем першым, з вялікай доляй хвалявання. Хацеў чытаць свае ёй вершы аж да змяркання. З былой пяшчотай мы гадзіну глядзелі ў вочы, вярталі нашы ўспаміны. Хацелася сядзець да ночы. А вершы як? На вершы часу не хапіла. Чакаў яе за дрэвам муж-вярзіла. Зноў у раку зайсці была ахвота, не слухай я старога Герадота.

## Мястэчка Жалудок

Пасля работы, на памяць фота. Побач электрык. Страшна трошкі. Апаясаны ланцугамі, а на плячах когцікошкі. Кажу яму: «Страшнавата трошкі». Адказвае з усмешкай: «Не прычапіцца міліцыя. Гэта ж мая амуніцыя. А дзе твае прычындалы для працы? Адказаць ты гатовы?» Кажу: «Мая амуніцыя заўсёды са мной, над галавой. Гэта словы роднае мовы».

## Наваполацк

Гартаю памяці старонкі нанова. Сустрэча ў школе з паэтам Жыгуновым. У Наваполацку гоман, шум, нібыта мінскі ГУМ. Сустрэчу трэба занатаваць. Будзем на фота ўсіх здымаць. Адна настаўніца хуценька ўбок, кажа: «Спяшаюся на ўрок. Мая старасць вашу маладосць не ўпрыгожыць. Не хачу я да слёз свае ўспаміны трывожыць». Гляджу я цяпер на гэтае фота, а перад вачыма толькі яна, што засталася за кадрам адна.

## У старым мястэчку

Да Дома культуры ніхто не ходзіць. Час разбурыў і хату, і сад. Песню старую ніхто не заводзіць. Жыцць прапануюць усім на еўрапейскі лад. Робяцца людзі сэрцам сухія, нібыта сталі раптам чужыя. Гора суседа ўжо не кранае, родная мова паціху канае. Багата чаго для душы тут не хапае. Але ж стаіць каля дуба духоўная сіла — родная школа, што нас навучыла дабро ўзвышаць, праўду казаць, сваё не губіць, па нашаму жыць! Іду да касцёла, неба, як калісь, сонейка грэе і тая ж рака, і сябра старога шчэ моцна рука.

## Сталіца

З дому выйшаў нешта злы. Усяляк бывае. Дзень вясны — у калюгах сонца грае, просіць есці верабей, каркае варона і трашчыць сарока. Мне ж да аптымізму, так скажу, далёка. Нат не ведаю чаму: хмуры, невясёлы. Можа, старасць, ці туга? Хоць шукай ты ворага, бо здаецца, цэлы свет ну зусім не мілы, і на працу ледзь іду я праз сілу. І пад ногі зірк і — ох! — павучок паўзе малы ад праезджых дарог. Ратаваўся ён ад шын, ды пад ногі да жанчын, да мужчын. Пасадзіў я мелюзгу на сваю газету і панёс да травы гэты цуд свету. Зпоўз з газеты і кульнуўся, падалося, усміхнуўся. Злы настрой мой мінаваў. Божы свет я абдымаў. Адступіў ад сэрца цень. Выдаўся шчаслівы дзень.

# Агледзець нельга абмінуць



*Фота Кастуся Дробава.*

Упараўнанні з іншымі друкаванымі выданнямі, кнігі для дзяцей маюць вялікую будучыню. І сёння іх можна знайсці ў прайс-лісце ці не кожнага дзяржаўнага выдавецтва. Кніга — не толькі тэкст, але і выдавецкі праект, і менавіта ў гэтым статусе яна яшчэ доўгі час будзе запатрабаванай. Каб знайсці чытача (пакупніка), кніга павінна чакаць яго кожнай старонкай: нават цікавы тэкст у непрывабнай кнізе можа застацца незаўважаным! А прывабнасць вызначаецца не толькі вокладкай ды ілюстрацыямі. Прапануем звярнуцца да тэкставых элементаў афармлення.

У кнігарні ці бібліятэцы чалавек, зацікаўлены вокладкай ці назвай кнігі, бярэ ў рукі новае выданне, станоўча ацэньвае працу мастака і гартае далей — захапляецца стылем, сюжэтам, трапнасцю вершаваных радкоў. Разумее, што менавіта гэта выданне будзе найлепшым гасцінцам-падарункам для маленькага чытача. Але каб атрымаць больш агульнае ўяўленне пра кнігу, даводзіцца звярнуцца да анатацыі, а яшчэ лепш — да прадмовы, пасляслоўя і звестак пра стваральнікаў, якія падкажуць, што чакаць ад выдання і з якой нагоды яно пабачыла свет.

Пакуль што толькі **анатацыя** гарантавана знаходзіць месца ў дзіцячай кнізе — і гэтага можа быць дастаткова для выдання да сарака старонак, разлічанага на самых маленькіх чытачоў. Выключэнне — перакладныя кнігі накшталт «Мамы Му...» Юі Вісландэр ці «Паштарскай казкі» Карэла Чапэка. Тут арганічна выглядаў бы невялікі тэкст пра аўтара і яго радзіму, пра чытацкую гісторыю твора, а таксама сцісла тлумачэнне: чаму выдавец ці перакладчык вырашыў прапанаваць беларусам менавіта гэты твор. Тым не менш у згаданых кнігах такая інфармацыя адсутнічае.

**Звесткі пра аўтара**, пададзеныя адпаведна ўзросту верагоднага чытача, даўно павінны стаць абавязковай часткай выдання. Фотаздымак пісьменніка таксама выклікае давер і жаданне пазнаёміцца з кнігай. У гэтым сэнсе прыветнай атрымалася апошняя старонка вокладкі ў кнігах Таццяны Сівец «Самы лепшы падарунак», Алены Мальчэўскай «Ша-Ша з левага чараўніка».

Але далёка не кожны аўтар прадстаўлены ва ўласнай кнізе шырэй за тры абавязковыя словы (прозвішча, імя, імя па бацьку). Хто такая Ганна Скаржынская-Савіцкая? Таццяна Дамаронак? Віялета Богдан? На жаль, іх кнігі не змяшчаюць звестак пра аўтараў...

Калі маладога ці пачынаючага творцу дастаткова прадставіць кароткім тэкстам, то пра творчасць сталых пісьменнікаў можна напісаць і некалькі старонак, што здараецца зусім не часта. Дзіўна, але нават у чатырох прагледжаных кнігах Генадзя Аўласенкі няма ніводнага абзаца, прысвечанага пісьменніку (хаця чаму б не звярнуць увагу на адметнасць творчасці, улюбёныя тэмы і жанры, не адзначыць некалькі цікавых фактаў з біяграфіі?). У звестках пра аўтара альбо ў анатацыі было б дарэчы пералічыць папярэднія кнігі пісьменніка, каб чытач пры жаданні мог адшукаць іх у кнігарні ці бібліятэцы.

Нярэдка даводзіцца пачуць меркаванне, што ў стварэнні дзіцячай кнігі праца мастака не менш істотная за працу пісьменніка. Але беларускія дзяржаўныя выдавецтвы пакуль не лічаць патрэбным прадстаўляць мастака нават некалькімі абзацамі. З цэлага стоса кніг 2014 — 2016 гадоў толькі аднойчы давялося прачытаць два сказы пра ілюстратара: у кнізе «Ігнась-чарадзей» Павел Ляхновіч выказаў удзячнасць Віталю Буйвіду — «таленавітаму мастаку з Горадні, які цудоўна аформіў кніжку». Вядома, **звесткі пра мастака** будуць цікавыя хутчэй дарослым, чым дзецям. І, разам з тым, калі стваральнікі кнігі распавядуць пра творчую працу, то падзеляцца з чытачом сваёй зацікаўленасцю.

Мастакам хранічна не шанцуе, а вось з пісьменнікамі здараецца па-рознаму. Напрыклад, кожная кніга Міколы Чарняўскага нагадвае пра аўтара то прадмовай, то фотаздымкам, то звесткамі. Хто павінен дбаць пра паўнавартаснае знаёмства пісьменніка з чытачом? Верагодна, і выдавец, і аўтар!

**Прадмовы** сустракаюцца пераважна ў выданнях, якія змяшчаюць навукова-папулярную інфармацыю альбо карысныя практычныя парады. Алесь Карлюкевіч, Яронімас Лаўцюс, Валянціна Дынько паводле правілаў кніжнага этыкету вітаюць чытачоў на першай старонцы і сцісла тлумачаць задуму ды прызначэнне сваіх кніг.

У выданнях, дзе прадстаўлены творы мастацкай літаратуры, прадмовы сустракаюцца рэдка: з першай старонкі кніга павінна захапіць, перанесці ў свет казак, жартаў, вясёлых вершаў. Затое напрыканцы можна са спакойнай душой змясціць невялікае **пасляслоўе** (знайшлося выключна ў кнігах Паўла Ляхновіча, Міколы Чарняўскага). Некалькі апошніх старонак можна вылучыць і на **артыкул** агляднага плана, альбо прысвечаны творчасці аўтара кнігі. У гэтым сэнсе выклікае непаразуменне канцэпцыя серыі «Школьная бібліятэка» (выдавецтва «Мастацкая літаратура»), дзе такія тэксты катэгарычна не прадугледжаны.

Гартаем зборнік паэзіі, прозы, драматургіі «Не я пяю — народ Божы...» (творы Уладзіслава Сыракомлі, Элізы Ажэшкі, Каятана Марашэўскага і інш.), зборнік твораў пісьменнікаў другой паловы XIX стагоддзя «Ад сентыменталізму да рэалізму» — здаецца, вось і магчымасць звярнуць увагу на тагачасную культурную сітуацыю, паведаміць школьнікам малавядомыя факты, паразважаць, чым актуальныя сёння прадстаўленыя тэксты. На жаль, гэта магчымасць так і засталася нявыкарыстанай — хаця як інакш зацікавіць падлеткаў беларускай гісторыяй і літаратурай? Тым больш што менавіта ў гэтым выпадку была б патрэбна сумесная праца літаратуразнаўцы і ўкладальніка кнігі, бо артыкул для школьнікаў павінен адрозніваецца ад навуковай публікацыі і стылем, і кампазіцыяй. Хіба ў Беларусі няма спецыялістаў, якія дапамаглі б з падрыхтоўкай серыі? Вядома, ёсць. Праблема хутчэй у адсутнасці добра наладжаных стасункаў між выдавецтвам і даследчыкамі, публіцыстамі, крытыкамі...

Аглядны артыкул быў бы арганічным і ў зборніку аўтарскіх казак, дзе можна распавесці пра творчасць прадстаўленых пісьменнікаў, адзначыць, што адбываецца ў сучаснай беларускай літаратуры, чым той ці іншы твор варты чытацкай увагі. У кнігах для падлеткаў артыкул ці пасляслоўе будуць звернуты да непасрэднага чытача. А вось у выданнях для дзяцей малодшага школьнага ўзросту такі тэкст будзе прызначаны хутчэй для бацькоў ці настаўнікаў і дапаможа сарыентавацца ў выбары новай кнігі.

Кніга — гэта не толькі тэкст, але і магчымасць рознабаковага знаёмства з пісьменнікам, мастаком, выдавецтвам, з сучаснай беларускай літаратурай. Прадмова, пасляслоўе, аглядны артыкул дапамогуць акрэсліць літаратурны і культурны кантэкст, прадставіць не толькі творцаў, але і даследчыкаў, перакладчыкаў. Выданне, аздобленае пасляслоўем, каментарыямі і тлумачэннямі, цікавым расповедам пра аўтара, будзе мець безумоўную каштоўнасць для чытача. Калі выдаўцы імкнуцца, каб беларуская культура прываблівала нашых суайчыннікаў, кожная дзіцячая кніга павінна быць адметным праектам. Як кажа прыказка, ад пачыну справа залежыць.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Кветкавая філасофія




Як захапіць кніжкамі сучасных дзяцей, распавесці аб прыродных з'явах так, каб было і пазнавальна, і цікава? Галаваломку ўжо ў другі раз вырашае Яна Явіч, маладая беларуская пісьменніца, чыя чароўная і павучальная кніга «Самыя кветкавыя сны» ўбачыла свет у выдавецтве «Народная асвета». У мінулым годзе яна прапанавала чытачам прыгоды дапытлівай Уцёны, якая знаёмілася з сонцам, ветрам, травой, вадой і аблокамі... «Хочаце, я раскажу вам пра марсіян?» — раптам спытала аўтар. Хіба можна тут выстаяць?

Тэма космасу прыцягвае дапытлівых чамучак усіх пакаленняў. А тут галоўная гераіня твора — дзяўчынка Астраліна (ці проста Ата), жыхарка Марса. Праўда, ёсць у аповесці-казцы зашыфраваная інтрыга: гаворка пойдзе не пра бязмежныя прасторы сусвету, а пра самыя прыгожыя на планеце расліны, кветкі. Зямныя цуды побач, трэба толькі разглядзець. Нават іншапланецяне імкнуцца гэта зрабіць. А мы што, горш?

Смела бярыце дзіця за руку і ідзіце з ім у парк, на лужок ці ў батанічны сад. Паверце, яму не будзе сумна з такім «даведнікам». Увагу адразу захопяць ілюстрацыі Валянціна Макаранкі — далікатныя, рэалістычныя, мяккія, па-касмічнаму таямнічыя. «Самыя кветкавыя сны» — чытанне хутчэй для дзяўчынак, чым для хлопчыкаў.

Кніга, па-першае, нібы маленькая энцыклапедыя, у якой можна пазнаёміцца з асаблівасцямі самых распаўсюджаных у нашых шыротах кветак, па-другое, зборнік прыгожых легенд; праўда, часам сумных, але незвычайных і добрых.

Вы ведалі, што гладыёлусы названы так у гонар моцнай, ахвярнай любові адважнага прынца і прыгажуні, пакінутай у вежы злым ведзьмаком? Калі не верыць у тое, што ўсё на свеце — жывое, непаўторнае, каштоўнае мае сваю гісторыю, то чалавек ператворыцца ў машыну, абыякавую, шэрую. Аўтар кнігі выхоўвае ў душах маленькіх чалавечнасць, разварушвае тое, што бацькі часам не паспяваюць выхаваць з-за занятасці, — неабыякавасць. Такія кнігі, як «Самыя кветкавыя сны», вучаць любіць свет вакол сябе, вывучаць яго, пазнаваць кожны дзень. Веды, што абавязкова спатрэбяцца ў жыцці, загорнутыя ў казку, — выдатны прыём у дзіцячай літаратуры. Ды і ў педагогіцы таксама.

У аповесці-казцы Яны Явіч, нягледзячы на тое, што кветкі размаўляюць, а дзяўчынка лётае на астралёце, сюжэт будуецца вельмі лагічна. Як і ў папярэдняй кнізе — пра Уцёну, аўтар выразна сочыць за думкамі дзіцяці, прадугледжвае пытанні, якія могуць прыйсці да яго. Чаму ў Чорнага мора такая назва? Вада ж звычайнага колеру… У кнізе ёсць адказ! Так, яна не толькі пра кветкі.

Дзеянне ўвогуле адбываецца ў сне. Няма чаго малым дзяўчаткам разгульваць у адзіноце па чужых планетах. А вось марыць — можна! І адказаць на мноства нечаканых пытанняў. У якім, напрыклад, старажытным горадзе з'явіліся самыя сонныя на планеце кветкі? У што быў ператвораны юнак, які дзень і ноч любаваўся сваім адлюстраваннем? Навошта вывелі чорны цюльпан? З-за якой кветкі з'явілася Японія?

Мноства паэтычных параўнанняў (адчуваецца, што аўтар піша вершы) сустракаецца ў кнізе. Маргарыткі — зоркі, што адлюстраваліся ў кроплях расы, ірысы — аскепкі вясёлкі, якія разляцеліся па ўсім свеце, рамонкі — маленькія сонейкі з белымі праменьчыкамі-пялёсткамі, якія ўзімку ператвараюцца ў сняжынкі… Нават даросламу вельмі хочацца ўзяць паперу, алоўкі ці фарбы!

А якія кветкі нагадваюць кубкі без ручак альбо ўсходні цюрбан? Чытанне лёгка ператварыць у займальную гульню з загадкамі. Замест раздзелаў — пятнаццаць сноў-гісторый. Дарэчы, на аснове кожнай з іх, якая выглядае як дыялог Астраліны з кветкамі, можна прыдумаць асобны чароўны аповед. Напрыклад, пра самы чысты і пяшчотны ў свеце музычны інструмент, які нарадзіўся сярод эльфаў, быў створаным з кавалачкаў небасхілу, каб растапіць сэрца адной прыгажуні. Яшчэ варыянт: гісторыя пра дзяцей Месяца і Сонца, якія былі выгнаны з неба за ляноту, бо забывалі запальваць начныя лямпы для людзей, а цяпер ператвараліся ў пухнатыя парашуцікі дзьмухаўцоў і імкнуцца вярнуцца дадому. У кнізе, на першы погляд маленькай, мноства таямніц — толькі ўключай фантазію!

Вядома, што дзеці любяць усё пераймаць. Дык вось, Астраліна — добры прыклад таго, як трэба сябе паводзіць. Ветлівая, клапатлівая, сумленная і добразычлівая. Не, яе характар не эвалюцыянуе на працягу аповеду, але вельмі прываблівае. Яна не забываецца нагадаць і дарослым, і дзецям (чытаць жа разам будзеце), што самае галоўнае ў жыцці — клапаціцца адзін пра аднаго, аддаваць увагу і час блізкім, думаць пра душэўную прыгажосць.

Калі ў сонечнае надвор'е выйсці на вуліцу і ўважліва прыслухацца, то можна пачуць шэпт прыроды. Чаму б не паэксперыментаваць?

**Марыя ВОЙЦІК**

# Свет шчаслівых… тэлефонаў

Казка пра цуды сучаснай тэхнікі, відаць, не магла не з'явіцца ў Беларусі, улічваючы цяперашнюю прыхільнасць дзяцей і падлеткаў да гаджэтаў, іх захопленасць дасягненнямі інфармацыйных тэхналогій. У той жа час наўрад ці ў аматараў мабільнай сувязі ўзнікла б ідэя адухаўляць тэлефоны. Для падобнага метафарычнага пераносу неабходны асаблівы — вобразны — тып свядомасці, развітая фантазія і ўлюблёнасць у слова. Такімі якасцямі сёння валодаюць адзінкі. У прыватнасці пісьменніца-падлетак Лада Ксенафонтава (сапраўднае імя Дар'я Ніжнёва).

Яшчэ некалькі гадоў таму Лада заявіла пра сабе як літаратар. Кніга «Калі ты тэлефон…» — трэцяя ў маладой пісьменніцы. Першы ж яе твор «Чараўніцтва наяве» — фанфік на тэму кніг сусветна праслаўленай Д. Роўлінг пра Гары Потэра. Асноўваючыся на рамане англійскай пісьменніцы, Лада Ксенафонтава, своеасаблівa, па-дзіцячы абаяльна пераасэнсавала любімую казку. Уражвае ўзрост аўтаркі — 12 гадоў. Галоўнае — яна прадстаўляе, па сутнасці, новы жанр. Нават у прафесійных беларускіх пісьменнікаў твораў такога кшталту надзвычай мала — літаральна адзінкі. Між тым, каб засведчыць сваю сталасць, нацыянальная літаратура павінна пастаянна пацвярджаць яе ў кожны гістарычны перыяд, павінна авалодаць усімі жанрамі, што існуюць у сусветнай літаратуры, у дадзеным выпадку — постмадэрнісцкімі жанрамі. Такім чынам, атрымалася, што дзяўчынка-літаратар знайшла ўласны адметны шлях у прыгожым пісьменстве.

Выдатнай можна назваць другую кнігу Лады «Як пазбавіцца ад нудоты». Яна створана ў лепшых традыцыях пазнаваўча-эсэістычнай лірычнай прозы слынных майстроў рускай літаратуры — Канстанціна Паўстоўскага і Уладзіміра Салаухіна.

Арыгінальная сама задума твора Ксенафонтавай, што, безумоўна, сведчыць пра вялікія творчыя магчымасці маладой аўтаркі. «Як пазбавіцца ад нудоты» — кніга не мастацкая, не ўсплёск магутнай дзіцячай фантазіі ў сюжэтыцы, а надзвычай прадуманы, вывераны крэатыўны навукова-папулярны праект, напісаны, тым не менш, смела, раскавана, бойка, так што карысныя парады для аднагодкаў і дарослымі чытаюцца на адным дыханні. Любы чытач знайшоў тут каласальную колькасць невядомай раней каштоўнай інфармацыі. Па сутнасці, гэта была маленькая энцыклапедыя звестак пра тое, чым можа заняць сябе сучасны падлетак, каб адагнаць сум і адчуць радасць быцця.




Трэцяя кніга дзяўчынкі-пісьменніцы з поўнай назвай «Калі ты тэлефон, то гэта яшчэ не азначае, што ў цябе не можа быць свайго ўласнага свету» — па памерах і па аўтарскай задуме прэтэндуе на жанр рамана. Тут дзейнічаюць як героі-людзі рознага ўзросту — дарослыя і школьнікі, так і «прадстаўнікі» тэхнічнай сферы — у асноўным тэлефоны, а таксама камп'ютар, фотаапарат і інш.

Ладзе і, можна меркаваць, яе аднагодкам цікава, перш за ўсё, уяўляць і сачыць за стасункамі адухоўленых тэлефонаў. У кнізе чытаем: «У свеце тэлефонаў, як і ў неабсяжным людскім космасе, таксама існуюць нешчаслівыя і шчаслівыя. Гаротных увогуле не заўважаюць гаспадары, пакуль на іх не прыходзіць званок або чарговае паведамленне. Для такіх падлеткаў, няздольных паглядзець у глыбіню, дайсці да сутнасці, тэлефоны з'яўляліся проста нікчэмнымі кавалкамі металу ці пластыку. Ім было ўсё роўна, колькі ў тэлефоне зарадкі, ці не разбіўся тэлефон… Яны спакойна маглі зайсці ў краму і купіць новы…»

Былі і шчаслівыя апараты, за якімі гаспадары сачылі. Менавіта такая ўладальніца Дыяна — галоўная гераіня твора. У яе быў стары тэлефон Дзін і больш новы, якога яна называла Моцькам. Дадзеныя рэчам імёны — ужо пачатак адносін з імі. Сям'і, акрамя рознай тэхнікі, належалі і іншыя тэлефоны: два ў бацькі Дыяны; адзін, навейшай мадэлі, Марвін, — у маці (ён — антаганіст усіх астатніх, паколькі ў рамане нельга без злодзея); тэлефон Блэкі ў сястры Дыяны Міланы. А яшчэ Нэд, прыналежнасць школьнай сяброўкі Дыяны Рэнаты — ён якраз з нешчаслівых. Акрамя таго, тэлефоны суседзяў. Карацей, цэлы калектыў, хоць галоўны герой усё ж Моцька: яго ракурс погляду на жыццё людзей і існаванне тэхнікі асноўны.

Аўтарку вялікай кнігі найбольш хвалюе эмацыянальная сувязь паміж гаспадарамі і іх тэлефонамі. Псіхалагічна такая сувязь вельмі зразумелая: калі нейкі апарат пастаянна патрэбны, то да яго не можа не ўзнікнуць прыхільнасць нават у рацыяналістаў-дарослых. І наадварот: тэлефон, камп'ютар, аўтамашына, магчыма, таксама «прывыкаюць» да пэўных рук. Такое дапушчэнне і выкарыстала маладая пісьменніца ў кнізе.

Разам са сваімі гаспадарамі тэлефоны наведваюць школу, гуляюць па вуліцах, ляцяць на поўдзень, адчуваюць асалоду на пляжы, зноў вяртаюцца да школьнай руціны. Храналагічна твор ахоплівае прыкладна год. І ўвесь час героі-тэлефоны, да якіх чытач паспявае прызвычаіцца, хвалююцца: як бы іх не замянілі на новыя, больш модныя мадэлі. Пры гэтым якраз навейшы па часе выпуску смартфон Марвін ахоплены ідэяй замяніць на тэхніку саміх людзей. Праўда, пад канец кнігі ён адмаўляецца ад гэтай вар'яцкай задумы. Такім сюжэтным ходам Лада падкрэслівае небяспеку ўсеагульнай бяздумнай машынізацыі, якая пагражае чалавецтву дэградацыяй.

А пакуль ачалавечваецца тэхніка. Моцька «надзвычай хвалюецца за Дыяну, імкнецца падказаць ёй тое, што яна яшчэ не зразумела. Перажывае за яе і хварэе разам з ёю. Дзін усё яшчэ верыць, што Дыяна калі-небудзь успомніць пра яго і раўнуе гаспадыню да лепшага сябра». Такімі ж пачуццямі жывуць і іншыя тэлефоны.

Знаходзячыся без людзей, тэлефоны адзін з адным размаўляюць, выходзяць на вуліцу, а Марвін нават лятае ў Амерыку. Праўда, раз на год тэлефоны, як і маецца быць у казцы, могуць ператварацца ў людзей. Яны мараць пра гэты дзень і нецярпліва чакаюць яго. Інакш кажучы, прагнуць большага ачалавечвання.

Перыпетыі адносін тэлефонаў паміж сабою, іх бясконцыя дыялогі, можа, і не вельмі захопяць дарослага чытача. Цікавасць выклікае асноўны пасыл — адухаўленне рэчаў. Стасункі апаратаў — не што іншае, як праекцыя стасункаў людзей у невялікіх калектывах.

Яшчэ больш цікава для дарослага чытача паглядзець на соцыум вачыма падлетка. Аўтарка імкнецца да псіхалагічнай аб'ёмнасці сваіх персанажаў. Найбольш удаўся вобраз Дыяны, бо ён аўтабіяграфічны. Гэта дзяўчынка нон-стоп — рухавая, няўрымслівая, летуценная, захопленая анімацыйнымі фільмамі, прыгодніцкімі кнігамі, морам і кветкамі. Яе цікавяць людзі, а таму нераўнадушная яна і да рэчаў, створаных чалавечай культурай. Прытым яна не выстаўляецца, не імкнецца звярнуць на сябе ўвагу, як яе сяброўка готка Рэната, а «проста жыве», застаючыся заўсёды сама сабою. Кніга ўяўляе мазаіку з жыцця дзяўчынкі-падлетка. Імпліцытна, на працягу твора, асобныя эпізоды ствараюць даволі поўную і пераканаўчую карціну ладу жыцця як сучасных школьнікаў, так і інтэлігентнай сям'і сярэдняга дастатку. Ёсць тут дэталі, што прэтэндуюць на абмалёўку побыту дарослых, бацькоў Дыяны, і моладзі. Так, на паліцах, што належалі сястры Дыяны — студэнтцы ўніверсітэта Мілане, размясціліся кнігі па псіхалогіі, дызайну інтэр'ера, зборнікі тэстаў і рэкамендацыі па выбары прафесіі. Вельмі рацыянальны набор, які сведчыць пра мэтанакіраванасць і працалюбства дваццацігадовай дзяўчыны.

Кніга Лады цікава, як і папярэдняя, аформлена, і адчуваецца прадуманасць і фантазія аўтара і мастака (выдадзена ў Кіеве). Усяго ў рамане 41 глава. Перад пачаткам тэксту кожнай главы — яе нумар, назва, як бы выхапленая з камп'ютара частка службовага меню і эпіграф, у якім анансуецца змест главы. Эпіграфы падбіраліся аўтарам уважліва і дакладна. Яны ў многім надаюць філасафічнасць раману. Так, да 26 главы прыдадзены словы амерыканскага пісьменніка-фантаста Рэя Брэдберы: «Я не люблю машыны. Я не цярплю інтэрнэт, камп'ютары. Яны перашкаджаюць нам жыць, яны крадуць наш час…» Да 27 главы ўжо словы рускага філосафа і вучонага-ўніверсала Уладзіміра Вярнадскага: «Вучоныя-даследчыкі; яны такія ж фантазёры і мастакі; яны здольныя добра працаваць, доўга працаваць толькі над тым, да чаго ляжыць іх думка, да чаго імкнецца іх пачуццё…»

Што можна параіць маладой аўтарцы на будучае? Магчыма, варта пачаць шліфоўку дэталяў, звяртаць большую ўвагу на апісанні. Скажам, сям'я гераіні ляціць на поўдзень, але невядома, дзе знаходзіцца курорт: Крым, Балгарыя, Турцыя, Кіпр? Экзатычныя рэаліі ўпрыгожылі б твор. Праўда, магчыма, тут свядомая ўстаноўка: для герояў важныя сонца ды мора, яны — складнікі мары, і астатняе не мае істотнага значэння.

Ясна, што майстэрства ў стылі прыйдзе, таму што ўжо цяпер ёсць важкі задзел: багатая фантазія, уменне будаваць сюжэт, чуццё да слова, цікавасць да псіхалогіі і філасофіі. У добрую дарогу!

**Таццяна ШАМЯКІНА**

# Услед за стралой

Кнігу Алега Аблажэя, у якой распавядаецца гісторыя кахання смелага рыцара Артакса і чароўнай прынцэсы Камілены, можна назваць адным з найпрыгажэйшых выданняў, што пабачылі свет летась. І сапраўды, чытаючы казку, міжволі «застываеш», супыняешся, разглядаючы ілюстрацыі (Алег Аблажэй тут выступіў і ў ролі мастака). Вытанчаныя сукенкі дам, бліскучыя металёвыя даспехі рыцараў, букеты кветак неверагоднай прыгажосці, вежа, што ўздымаецца амаль да зор… Здаецца, аўтар спачатку намаляваў сваіх герояў, а ўжо потым падумаў пра тое, што магло б з імі адбыцца.

Але і сам расповед, выкананы па класічных казачных канонах, таксама атрымаўся адметны і яркі. Магчыма, прычына ў тым, што айчынныя пісьменнікі, чые творы адрасаваныя дзецям, ужо даўно не звярталіся да жанру класічнай казкі. Такой, якую маглі б прачытаць (і зразумець яе сэнс!) і беларускія, і бразільскія, і нават паўднёваафрыканскія дзеткі, паводле якой студыя Уолта Дыснэя магла б зняць прыгожы, захапляльны і яскравы мультфільм. Такі, дзе дзейнічаюць прынцэсы і прынцы, каралі і каралевы, у небе лётаюць арлы, а ў рацэ плаваюць вялікія рыбіны, дзе страла, пушчаная прынцам у вышыню, можа прадказаць яго лёс.

Здаецца, мы сапраўды адвыклі ад таго, што казка можа быць проста казкай, што ў ёй неабавязкова павінна прысутнічаць інфармацыя пазнавальнага кшталту, а героі — быць нейкімі неверагоднымі фантастычнымі істотамі. Таму і твор Алега Аблажэя выглядае свежым і новым. Больш за тое, казка змяшчае той самы прастор для роздумаў, разваг, дадумванняў, такі важны для абмеркавання твора з дзецьмі, і нібыта правакуе на стварэнне працягу.

Не ведаю, наўмысна ці выпадкова аўтар пазбягае ў творы «татальнага» хэпі-энду, калі ўсе застаюцца шчаслівыя, задаволеныя і перавыхаваныя. Але шкада, што Алег Аблажэй забываецца на некаторых герояў, нібыта прабягае міма іх падчас расповеду. А яны надзвычай каларытныя. Мне як чытачу цікава, што здарылася з жорсткім, ваяўнічым бацькам Артакса, яго братамі. Ці даведаліся яны пра вяселле смелага і добрага рыцара? Ці змянілі ўласнае стаўленне да жыцця і людзей пад уплывам прыкладу Артакса?

Гэтыя моманты застаюцца па-за ўвагай аўтара. А можа, ён наўмысна прымушае чытача разважаць і думаць яшчэ і пра «забытых» герояў, апроч асноўных, магістральных разваг.

Пра што можна паразважаць, прачытаўшы «Красамоўнае сэрца»? Ды пра што заўгодна! Чаму нельга быць такімі жорсткімі, як бацькі і браты Артакса, чаму важна праяўляць міласэрнасць і спагаду… Чаму шкодна засяроджвацца толькі на працы ці, наадварот, адно захапляцца мастацтвам і забывацца на «хлеб штодзённы»… Як знайсці гармонію з сабой і ўнутраным светам і ў той жа час не пакрыўдзіць блізкіх… Дарэчы, нельга сцвярджаць, што адказ на гэтыя пытанні павінен быць адназначным. Кожная з версій, нават самая неверагодная і вар'яцкая, мае права на існаванне: героі шчаслівыя і гарманічныя ў сваёй абмежаванасці. Чаму яны павінны нешта змяняць у сваім стаўленні да жыцця?




*Алег Аблажэй. Красамоўнае сэрца. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2015. — 71 с.*

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Кніжныя вектары пяці стагоддзяў

**«Елика бывает польза от учения книгами… Се бо реки суть напаяюще вселенную» — словы з Радзівілаўскага летапісу выгравіраваныя пры ўваходзе ў Нацыянальную бібліятэку Беларусі. Вертыкаллю мудрасці ўзлятаюць увысь. Без развіцця кніжнай справы і кнігі не ўяўляецца духоўнасць, культура. Калісьці свет зварухнуўся вынаходніцтвам папірусу, потым пергамент, рукапісная кніга, найвялікшы росквіт якой прыпаў на першую палову XV ст. І, нарэшце, друкаванае слова — неад'емная частка грамадскай самасвядомасці. Кніга прайшла вялікі шлях. У 2017 годзе будзе святкавацца 500-годдзе айчыннага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання. Культурны і навуковы пульс гэтай падзеі — XII Міжнародныя кнігазнаўчыя чытанні «Кніжная культура Беларусі: погляд праз стагоддзі», што адбыліся ў Нацыянальнай бібліятэцы. Кнігазнаўцы з Беларусі, Венгрыі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Расіі, Славакіі, Украіны прадставілі найноўшыя даследаванні па гісторыі рукапіснай і друкаванай кніжнай спадчыны, будучыні кнігі.**



Фота Наталлі Святловай.

Выданне Францыска Скарыны «Прамудрасць Божая», Прага, 1518.

## ЕЎРАПЕЙСКІ ВЕКТАР

Цэнтральная асоба ў культурным кантэксце Беларусі — Францыск Скарына. Нацыянальная бібліятэка рэалізуе праект па факсімільным узнаўленні кніжнай спадчыны беларускага першадрукара. У цяперашні момант ужо выйшла 11 тамоў, а ўсяго плануецца выдаць 21. Вядзецца праца па вяртанні спадчыны пачынальнікаў беларускага кнігадрукавання праз віртуальную рэканструкцыю. Дзякуючы ўзаемадзеянню з замежнымі партнёрамі за апошнія тры гады Нацыянальнай бібліятэкай атрыманы лічбавыя копіі больш як 120 выданняў Францыска Скарыны з Вялікабрытаніі, Германіі, Польшчы, Расіі і Украіны. Працягваецца праца па атрыманні лічбавых копій іншых беларускіх выданняў з замежных збораў. 500-годзе кнігадрукавання ўключана ў каляндар памятных дат ЮНЕСКА, як адзначыў намеснік дырэктара па навуковай рабоце і выдавецкай дзейнасці Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі А.Суша.

Сёлетнія кнігазнаўчыя чытанні арганізаваны ў супрацоўніцтве з Саветам Еўропы.

— XII Міжнародныя кнігазнаўчыя чытанні ладзяцца ў рамках Еўрапейскай культурнай канвенцыі, якая была распрацавана Саветам Еўропы яшчэ ў 1954 г., — адзначыла на ўрачыстым адкрыцці дырэктар інфармацыйнага пункта Савета Еўропы ў Мінску Ларыса Лукіна. — Знамянальна, што Рэспубліка Беларусь у 1993 г. абрала для далучэння менавіта гэты міжнародны дагавор. Стаўшы ўдзельнікам канвенцыі, краіна пачала супрацоўнічаць з Саветам Еўропы з такіх важных галін, як культура, адукацыя, навука, спорт, бібліятэчная справа…

Пры падтрымцы Савета Еўропы ў межах XII кнігазнаўчых чытанняў адбыўся міжнародны «круглы стол» «Еўрапейская дакументальная спадчына». Абмеркавалі шляхі міжнароднага супрацоўніцтва па выяўленні і сумесным выкарыстанні дакументальнай спадчыны ў эпоху лічбавых тэхналогій. «Нічога не заменіць жывы дакумент, але для даследчыкаў лепш мець доступ да легітымнай базы даных, чым атрымаць адмову ў камандзіроўцы ў Маскву, Варшаву (гэта вялікія грошы), — адзначыў падчас «круглага стала» дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі. — Усё, што належала беларускай кніжнай культуры да XX ст., знаходзіцца за межамі краіны. Мы хацелі б, каб гэта было даступна нам».

## УКРАІНСКІ ВЕКТАР

Карыснымі адкрыццямі падзяліліся калегі з Украіны. Калекцыя беларускіх кірылічных старадрукаў XVI — XVIII стст. у зборах Музея кнігі і друкарства г. Астрога налічвае 37 адзінак, распавяла загадчык музея Святлана Пазіхоўская. У калекцыі налічваецца 9 старадрукаў, якія пабачылі свет у друкарнях, што дзейнічалі ў XVII — XVIII стст. на тэрыторыі цяперашняй Беларусі (4 кірылічныя і 5 іншамоўных), і 29 — у Вільні (4 кірылічныя: па 2 старадрукі XVI і XVIII ст; іншамоўных — 25: 1 старадрук XVII ст., 24 — XVIII ст.). Беларускіх кірылічных старадрукаў у калекцыі музея г. Астрога ўсяго 8, і гэта найменшая падборка кніг кірылічнага друку калекцыі. Класіфікуюць іх храналагічна (XVI ст. — 2 выданні, XVII ст. — 2, XVIII ст. — 4) і геаграфічна (4 віленскія выданні і па 2 выданні друкарань Магілёва і Гродна). Тры выданні свяшчэнна-богаслужбовыя: Псалтыр (1576), Апостал (пасля 1595), Евангелле (1644 г.) — віленскія. І 5 выданняў — царкоўна-богаслужбовыя: Ірмалогій (Буйнічы або Магілёў, не пазней за 1638), Актоіх (Магілёў, 1730), Канонік (Гродна, 1790), Служба Ціхвінскай Божай Маці (Гродна, 1789), Пралог (Вільня, 1798).

Сярод кніг збору вылучаецца цікавае выданне — невядомы друк Спірыдона Собаля Ірмалогій (Буйнічы або Магілёў, не пазней за 1638). Большасць асобнікаў маюць запісы, па якіх можна адсачыць бытаванне кнігі.




Фота Кастуся Дробава.

Падчас выстаўкі «Францыск Скарына і наш час».

З мастацкага боку звяртае ўвагу Евангелле. У асобніку музея Астрога захаваліся ўсе выявы, у тым ліку евангелістаў Пятра і Паўла, а на 2-й рамцы — ініцыялы гравёра: Н.I.V. 1593. Цікавы таксама дэкор Асмагласніка, ілюстраваны вядомым беларускім гравёрам Васілём Вашчанкам (захаваліся ўсе ілюстрацыі, акрамя гравюры на аркушы 125).

Ірына Цібароўская-Рымановіч, супрацоўнік Нацыянальнай бібліятэкі Украіны імя У. І. Вярнадскага, прадставіла гісторыка-культурныя помнікі Берасцейшчыны, якія захоўваюцца ва Украіне, у прыватнасці Берасцейскую Біблію. Экзэмпляры Берасцейскай (Радзівілаўскай) Бібліі належалі прадстаўнікам магнацкага роду ВКЛ — Сапегам. На дадзены момант ва ўкраінскіх бібліятэках захоўваецца 8 экзэмпляраў Берасцейскай Бібліі, 2 з іх — у Нацыянальнай бібліятэцы Украіны імя У. І. Вярнадскага (1 — поўны), 4 — у Львоўскай нацыянальнай навуковай бібліятэцы імя В. Стэфаніка (1 — поўны), 1 — у Навуковай бібліятэцы Адэскага нацыянальнага ўніверсітэта імя І. І. Мечнікава і 1 — у Харкаўскай дзяржаўнай бібліятэцы імя В. Г. Караленкі.

Што да ўкраінскай часткі кніжнай сапегіяны, то на сёння ў бібліятэках Украіны захоўваецца 42 выданні.

## РАСІЙСКІ ВЕКТАР

Цікавыя кніжныя знаходкі ранняга беларускага друку XVI—XVII стст. у зборах кніжнага фонду Іванаўскага дзяржаўнага гісторыка-краязнаўчага музея імя Д. Г. Бурыліна анансавала даследчыца з Расіі Яўгенія Машыністава. Адна са знаходак непасрэдна звязана з беларускімі друкарнямі: Евангелле напрастольнае, Вільня, друкарня Мамонічаў, 1600. Друкарня Мамонічаў прадстаўлена ў кніжнай калекцыі Іванаўскага дзяржаўнага гісторыка-краязнаўчага музея яшчэ двума рэдкімі выданнямі: Апостал, Вільня, друкарня Мамонічаў, 1591 (1-е выд.) (набыў у 1917 г. Д. Г. Бурылін) і Евангелле вучыцельнае (з фаліяцыяй), Вільня, друкарня Мамонічаў, 1595. Вялікая колькасць экзэмпляраў Евангелля вучыцельнага звычайна без першых двух аркушаў. Не без дэфектаў і дадзены асобнік, але гэтае Евангелле, са збору Д. Г. Бурыліна, мае тытульны ліст з гербам Сімяона Войны на адвароце. Укладны запіс на кнізе паведамляе, што 11 сакавіка 1596 г. гэтае Евангелле было пакладзена «в церковь на престол к живоначальныя троица и преподобному Сергию».

У зборах музея ёсць і выданні Магілёўскай друкарні Максіма Вашчанкі: Акафісты усесядмічныя (Магілёў, Максім Вашчанка, друкарня Магілёўскага Багаяўленскага брацтва, студз. 1698); Кірыл Транквіліён (Стаўравецкі). Перла мнагацэннае (Магілёў, Максім Вашчанка, 1699).

Яўгенія Машыністава ўпэўнена, што новыя знаходкі яшчэ наперадзе. Прынамсі, на сёння ў двух выданнях Іванаўскага дзяржаўнага гісторыка-краязнаўчага музея імя Д. Г. Бурыліна — Евангеллі і Служэбніку — на навуковых пашпартах месцам друку запісана: [Малороссия] і [Белороссия]. Яны цярпліва чакаюць свайго даследчыка.

## ЛІТОЎСКІ ВЕКТАР

Андрус Юркявічус з Вільнюса звярнуў увагу на кніжную культуру справаводства, разгледзеўшы выпіскі з Аршанскіх замкавых кніг канца XVI ст. Большасць ранніх кніг судовых спраў Аршанскага павета зніклі назаўсёды, але ў аддзеле рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх Літоўскай акадэміі навук давялося знайсці 15 сапраўдных выпісак з Аршанскіх замкавых кніг, датаваных канцом XVI ст. Самая ранняя — ад 22 жніўня 1570 г., астатнія — з 1583 па 1600 г. У выпісках узгадваецца тры асобы, што займалі ў канцы XVI ст. пасаду пісара Аршанскага замка. Гэта Юрый Барновік (1570), Мікалай Падбярэзскі (1583 — 1590) і Багдан Буры (1592 — 1600). Гісторык царскай Расіі Іван Лапо адзначаў, што ў III Статуце ВКЛ 1588 г. шмат увагі нададзена рэгламентаванню захоўвання замкавых кніг: ваяводы і судовыя старосты абавязаны былі належным чынам клапаціцца пра замкавыя кнігі. Што да графічных асаблівасцей выпісак, то яны напісаны старажытнарускім скорапісам. Амаль ва ўсіх выпісках ёсць вадзяныя знакі. Цэнтральная ўлада ВКЛ і ўстановы мясцовай улады, несумненна, разумелі значэнне пісьма ў судовай працы. Таму не шкадавалі намаганняў на падрыхтоўку пісараў.

## ТЭХНАЛАГІЧНЫ ВЕКТАР

Друкаваная спадчына — бясцэнны нацыянальны скарб. А ці жыццяздольная электронная кніга? Задаваліся пытаннем і падчас чытанняў. «Кнігазнаўцы, спецыялісты па кнізе ўсё часцей мігрыруюць у сферу электронных камунікацый. Спецыялізаваную інфармацыю атрымліваюць з інтэрнэт-рэсурсаў. Гэта рэаліі», — адзначыў Алесь Суша.

Хуткасць перадачы паведамленняў, суперсучасныя тэхналогіі, мадэрнізацыя традыцыйных сродкаў камунікацыі спараджае новыя медыяпаводзіны людзей. У той жа час адмаўленне новага — няздольнасць ісці ў нагу з часам. Таццяна Шушунова, дацэнт кафедры сацыяльна-гуманітарных дысцыплін БДУ імя М. Танка, выказала думку, што масавы від культуры становіцца культурай мільёнаў, пацясняючы народную і істотна дэфармуючы элітарную культуры. Абвастраецца праблема крызісу чытацкай культуры. Па прычыне насычанай інфармацыйнай прасторы кніжным магазінам раяць спалучаць лічбавы свет з фізічнай рэальнасцю.

Калі ў вучэбным працэсе друкаваная кніга замяняецца электроннай, гэта не значыць, што традыцыйная кніга губляе значэнне, тлумачыць даследчыца з Украіны Таццяна Яцэчка-Блажэнка. Электронная кніга — аўтаматызаваны варыянт друкаванага выдання. Выкарыстанне ноўтбука ці планшэта дае электроннай кнізе поўны комплекс мультымедыйных функцый (графіка, гук, відэа). Карысны элемент у электроннай кнізе — пошукавая сістэма: становіцца магчымым аналіз зместу, пошук па ключавых словах. Але пры ўсіх плюсах электроннай кнігі (эканамічны эфект, эфект сінергіі для вытворцы, карыстальніка, пашырэнне геаграфіі спажывання, хуткі абмен інфармацыяй) адукацыю мэтазгодна засноўваць на друкаванай кнізе, лічыць спецыяліст з Кіеўскага політэхнічнага інстытута Галіна Грэт. Навукоўцы запэўніваюць, што электронная кніга не павінна выцесніць друкаваную. Побач з пошукам інфармацыі ў сетцы мэтазгодна карыстацца і бібліятэкамі. Эфектыўней спалучаць розныя віды крыніц. А электронныя падручнікі — у якасці дапаможнага інструмента.

**Наталля СВЯТЛОВА**

# Клапатлівыя, міласэрныя, свядомыя

## «Жанчыны-дваранкі беларуска-літоўскіх губерняў: прававы статус, адукацыя, грамадская актыўнасць»

Выстаўка пад такой назвай арганізавана ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі, каб дапамагчы зразумець сутнасць кнігі кандыдата гістарычных навук Наталлі Анофранка «Дваранкі беларуска-літоўскіх губерняў у канцы XVIII — першай палове XIX ст.». Яе прэзентацыя адбылася пры ўдзеле Інтытута гісторыі НАН Беларусі. У манаграфіі разглядаюцца шляхі інтэграцыі прадстаўніц вышэйшага саслоўя былой Рэчы Паспалітай у склад дваранства Расійскай імперыі. Хранолагічныя рамкі даследавання ахопліваюць перыяд з падзелаў Рэчы Паспалітай і да канца кіравання ў Расійскай імперыі Мікалая I.

Выстаўка з фондаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі падрыхтаваная супрацоўнікамі аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі. Прадстаўлены дакументы XIX — пач. XX ст., сучасная гістарыяграфія, якія дапамагаюць зразумець жыццё жанчын-дваранак на нашых землях.

### ДАЗВОЛ НА ШЛЮБ

Шлюбнае заканадаўства на час падзелаў Рэчы Паспалітай і далучэння беларуска-літоўскіх зямель працяглы час рэгулявалася Статутам ВКЛ 1588 г. Далучэнне беларуска-літоўскіх зямель да Расійскай імперыі выклікала змены ў шлюбна-сямейнай сферы. У пачатку XIX стагоддзя ўлады Расійскай імперыі пачалі падымаць праблему ўніфікацыі шлюбнага заканадаўства. Да 30-х гадоў XIX стагоддзя ўніфікацыя была завершана і зафіксавана ў Зводзе законаў 1832 года. Уведзеныя нарматыўныя акты датычыліся прадстаўнікоў праваслаўнага, каталіцкага і пратэстанцкага веравызнання. Асаблівая ўвага новым заканадаўствам надавалася заключэнню шлюбаў паміж праваслаўнымі і католікамі. З 1832 года такія шлюбы абавязкова павінны былі быць блаславілёныя праваслаўным святаром. Каталіцкія ж вернікі былі абавязаны звяртацца па дазвол уступіць у такі шлюб.

Імператар Аляксандр I меў права даваць ці не даваць дазвол на шлюб арыстакратыі і прыдворных, адзначыла ў сваіх даследаваннях А. Бялова («Четыре возраста женщины»: Повседневная жизнь русской провинциальной дворянки XVIII — середины XIX в.» (СПб., 2010). На думку даследчыцы, у асяродку расійскага дваранства прысутнічала негатыўнае стаўленне да змешаных шлюбаў праваслаўных жанчын з дваранамі каталіцкага веравызнання, лічылася, што такія шлюбы не заслугоўвалі імператарскага ўхвалення.

### ПАНСІЁНЫ ЗАМЕСТ МАНАШАК

Дваранкі маглі атрымаць адукацыю: хатнюю, у свецкім прыватным пансіёне, у школах, якія ўтрымлівалі жаночыя манаскія ордэны. Найбольшая канцэнтрацыя манастырскіх вучылішчаў і школ была ў Вільні. У 1805 годзе там дзейнічалі жаночыя вучылішчы базыльянак, бернардзінак, бенедыкцінак, кармелітак, марыявітак, візітак. Пасля паўстання 1830—1831 гадоў у сферы жаночай адукацыі ў беларуска-літоўскіх губернях пачалі адбывацца змены.



Урад Расійскай імперыі ў сувязі з паўстаннем звярнуў увагу на жаночую адукацыю. У пачатку 1840-х гадоў былі прыняты меры для канчатковага адхілення рымска-каталіцкіх манашак ад жаночай адукацыі. Канчаткова ж манастырская жаночая адукацыя на беларускіх землях была ліквідавана ўказам Мікалая I ад 14 лютага 1843 года. Імператар даў распараджэнне аб закрыцці ўсіх пансіёнаў, якія трымалі жаночыя каталіцкія манастыры ва ўсіх заходніх губернях. Дзяржава брала на сябе функцыю выхавацеля дваранак. У выніку ў беларуска-літоўскіх губернях пачалі з'яўляцца навучальныя ўстановы для дзяўчынак новага тыпу — узорныя пансіёны, якія вялі навучанне на рускай мове.

Праблема развіцця жаночай адукацыі стала аб'ектам навуковага аналізу ўжо ў канцы XIX — пач. XX стагоддзя, а таксама на сучасным этапе.

Польскі даследчык Р. Врачынскі разглядаў складанне сістэмы навучальных установ як у Герцагстве Варшаўскім, так і ў Царстве Польскім; асабліва адзначыў ролю школы гувернантак, якая з'явілася ў Варшаве ў 1825 годзе. Непасрэдна да тэмы жаночай адукацыі на беларускіх землях звярнуўся Л. Заштаўт. Найбольш увагі ён надаў разгляду манастырскай жаночай адукацыі ў 30 — 40-я гады XIX стагоддзя.

Беларуская даследчыца Л. Ігнатавец закранула працэс ліквідацыі жаночых пансіёнаў пры каталіцкіх манастырах у 30—40-я гады XIX стагоддзя. Яна паказала складанасці, з якімі сутыкнулася адміністрацыя Беларускай навучальнай акругі ў ходзе русіфікацыі гэтых навучальных устаноў. На думку С. Амелькі, у жанчыны-дваранкі быў толькі адзін шлях атрымаць адукацыю: хатняе навучанне і самаадукацыя.

Па гэтай тэме на выстаўцы прадстаўлены манаграфіі Г. Кіпрыяновіча «К истории женского образования в Западной России…» (1910), В. Панамаровай «Мир русской женщины: воспитание, образование, судьба. XVIII — начало XX века» (2006), С. Куль-Сяльверставай «Жанчыны ў культурным жыцці беларускіх земляў у першай палове XIX ст.» (2007) і інш.

### КАНСПІРАЦЫЯ ДЛЯ ВЫБРАНЫХ

Шэраг навуковых публікацый прысвечаны ўдзелу жанчын у палітычных падзеях, іх дзейнасці ў палітычных арганізацыях. У пачатку XIX в. палітычную актыўнасць праяўлялі прадстаўніцы арыстакратыі, якая выяўлялася ў розных формах: удзел у патрыятычных тэатральных пастаноўках, знаходжанне на соймавых сесіях у Герцагстве Варшаўскім і г. д. Самы яскравы прыклад — стварэнне Ізабелай Чартарыйскай музея польскіх помнікаў у Пулавах. У час паўстання 1830 — 1834 гадоў жанчыны Царства Польскага бралі актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. Яны збіралі сродкі для паўстанцаў, апекавалі параненых. У перыяд паміж паўстаннямі 1830 — 1831 і 1863 — 1864 гадоў жанчыны бралі ўдзел у патрыятычна-гуманітарнай дзейнасці і ў палітычнай канспірацыі (падтрымлівалі кантакты з эміграцыяй, перавозілі тайную карэспандэнцыю, былі звязаны з нелегальным друкам). Жанчыны заходніх губерняў падчас паўстання 1830 — 1831 гадоў выконвалі функцыі сувязных, кур'ераў, праваднікоў, інфарматарак, але іх дзейнасць не мела масавага характару.

Значную частку выстаўкі складае распараджальная і справаздачная дакументацыя. Прадстаўленыя дакументы даюць магчымасць выявіць механізмы дзяржаўнага рэгулявання прававога статусу дваранак беларуска-літоўскіх губерняў, іх правы і абавязкі ў сямейнай сферы.

**Алена ДЗЕНІСЕНКА**



# Кот-ваявода ды фінансавая нагода

**Як прадставіць кнігу ў духу «смяхотнай штукі»?**

Пра гэта ведаюць у Гомельскай абласной універсальнай бібліятэцы імя Леніна. «Смяхотнай штукай» назвалі аповесць «Кот-Ваявода». Таму што яе жанр цяжка вызначыць нават самому аўтару — вядомаму пісьменніку і драматургу, прафесару філалогіі Івану Штэйнеру.

Іван Фёдаравіч распавёў: «Дзеянне адбываецца дзесьці на Палессі. Адна кабецінка атрымала вялікую спадчыну з Англіі. І адпісала яе... свайму любімаму катку. Што тут пачалося і як гэта паўплывала на жыццё людзей, а асабліва на двух яе зяцёў, вы даведаецеся з маёй новай кнігі».

Трэба адзначыць, што праявы пачуццё гумару не на філолагах, з якімі Іван Штэйнер сустракаецца штодня (выкладае на філалагічным факультэце Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта). У якасці наведвальнікаў прэзентацыі былі людзі, звязаныя з тэхнічнымі навукамі: Юрый Міхайлавіч Плескачэўскі, саветнік і член-карэспандэнт НАН Беларусі, Віктар Сяргеевіч Аверын, доктар біялагічных навук, прафесар, дэкан біялагічнага факультэта ГДУ імя Ф. Скарыны, і іншыя.

Прадстаўлены ўрывак з кнігі ў выкананні народнага тэатра «Гракі», які працуе пры абласной бібліятэцы. Аўтар прэзентаваў сваю кнігу ў вышыванцы з чырвоным матыльком. Але ў памяць пра свята яму падаравалі мяккага плюшавага ката, нібыта таго самага «Ката-ваяводу», які абяцае ўладальніку жыццёвы поспех.

**Алена ПАРФІЯНОВІЧ**

# *Ab imo pectore*

## Стэфанія Станюта працягвае жыць у самаробных упрыгожваннях

Усё пачынаецца з прыроды. Асабліва для мастака. Назіраць наваколле, натхняцца… Як Стэфанія Станюта. Легенда сцэны захаплялася вырабам упрыгожванняў з прыродных матэрыялаў. Разглядзець у звычайным карчы штосьці выключнае здольны чалавек з мастацкім густам, уяўленнем… Кранальныя жывёлы з дрэва, шчыры і арыгінальныя пацеркі з макарон-зорачак, жалудоў, маісу, упрыгожванні з манчжурскага арэху, з зерня хурмы і фінікаў, дробная пластыка, скульптура дэманструецца ў філіяле Прэзідэнцкай бібліятэкі — Выканаўчым камітэце СНД. Год культуры тут пачаўся цыклам выставак «Ствараць культуру сваімі рукамі».

Калекцыю прадставіў клуб самабытных майстроў «Прырода і фантазія» (кіраўнік Аляксандр Ляйко), сярод удзельнікаў якога з 1970 года была Стэфанія Станюта.

— Выстаўка атрымалася комплекснай: тэматычная, прадметная, мастацкая, — адзначае галоўны бібліятэкар аддзела абслугоўвання карыстальнікаў Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь Таццяна Лычагіна. — Мы пачалі праводзіць майстар-класы па відах творчасці: піраграфія, бісерапляценне, вышыўка лентамі. Бібліятэка пераўтвараецца ў сацыякультурны цэнтр, дзе карысны розныя формы работы, накіраваныя на развіццё чалавека, на захаванне і памнажэнне гістарычнай памяці.

Бібліятэка — універсальны цэнтр культуры. Час патрабуе, каб кніжніца мянялася, лічыць Таццяна Лычагіна. Укараняецца аўтаматызацыя, усё пераганяюць у лічбу, скануюць, становяцца папулярнымі электронныя кнігі, але не абысціся без жывога ўдзелу чалавека. Ад асобаснага элемента, прадметнага свету не адысці.

30 красавіка будзе адзначацца 111-годдзе з дня нараджэння актрысы. Выстаўка — нагода асэнсаваць шматграннасць яе таленту, глыбіню натуры.

**Наталля СВЯТЛОВА, фота аўтара**



*Выстаўка ўпрыгожванняў, зробленых Стэфаніяй Станютай.*

*Эпісталярная памяць*

# Лісты да Алеся Бачылы. Пухавіцкі збор

**Алесь Мікалаевіч Бачыла пакінуў сур'ёзны след у беларускай паэзіі, у беларускай літаратуры ўвогуле. На шчасце, ведаюць, разумеюць гэта і на Пухавіччыне (паэт нарадзіўся ў вёсцы Лешніца Пухавіцкага раёна). Бібліятэкары раёна, калектыў раённага краязнаўчага музея на чале з Аляксандрам Прановічам зрабілі неверагодна шмат дзеля ўшанавання памяці Алеся Бачылы. У музеі ёсць бібліятэка паэта — некалькі соцень кніг з аўтографамі беларускіх пісьменнікаў. Захоўваюцца і розныя матэрыялы, рукапісы, дакументы, звязаныя з жыццём і творчасцю Алеся Бачылы. Маюцца ў гэтых зборах і лісты, адрасаваныя аўтару неўміручай песні «Радзіма мая дарагая». Некаторыя з іх і хацелася б прывесці ў дадзенай публікацыі, каб звярнуць увагу на кола знаёмых, сяброў Алеся Мікалаевіча, на яго чалавечыя, жыццёвыя і творчыя зацікаўленні.**

Вось паштоўка, відаць, з 1967 года… Да паэта звяртаецца другі паэт — Максім Танк. «Дарагі дружа Алесь! Шчыра дзякую табе за «Снежную баладу», за памяць. Віншую цябе і тваю сям'ю з першамайскім святам — святам вясны і сонца. Хай вясна і сонца заўсёды гасцяць у тваёй хаце, у сэрцы і песнях. З прывітаннем і любоўю Максім Танк».

«Снежная балада», праўда, выдадзена ў 1968-м… Значыць, паштоўка, пэўна, усё ж такі з красавіка ці мая 1968 года. З 1957 па 1972 гады Бачыла працаваў адказным сакратаром «Полымя». Пачынаў, калі яшчэ галоўным рэдактарам быў Максім Танк (з 1948 па 1966 гады).

У 1960-я працаваў у «Полымі» і Янка Брыль. Недзе з таго часу і вось гэтыя тры лісты аўтара рамана «Птушкі і гнёзды» да Алеся Бачылы. «Дарагі Алесь! Раней, чым я сам прыеду да цябе, каб разам ахнуць па добрай чарцы, — няхай прыдзе гэтае пісьмо. Няхай яно скажа, што я цябе люблю і паважаю і паважаю, што разам весялей мець па 50, што нам яшчэ тупаць ды тупаць — у клопатах і радасцях нашага подзвігу! Янка Брыль». Ліст без даты.

Янка Брыль — з 1917 года, Бачыла нарадзіўся ў сакавіку 1918… Магчыма, ліст быў напісаны ўлетку 1968 года ці пазней — улетку альбо вясной 1969, калі паэт адпачываў недзе за межамі Беларусі. Хутчэй за ўсё, у Ялце, куды Бачылу вёў яшчэ і пошук слядоў Максіма Багдановіча. У 1971 годзе першым выданнем пабачыць свет цікавая, з пачуццём любові напісаная Алесем Бачылам кніжачка «Дарогамі Максіма».

А вось гэтае пасланне — ужо з датай: ад 21 сакавіка 1969 года: «Дарагі Алесь! Напішы, калі ласка, з кім ты гаварыў у доме, дзе памёр Багдановіч: № кватэры, людзі.

Я быў там і нічога не дамогся.

Пішу каля кіёска «Пошта» на страшным ветры, амаль на калене. Цісну руку. Я. Брыль». Зваротны адрас: «Ялта. Дом творчества писателей И. А. Брыль».

Літаратуразнаўца Алена Манкевіч у энцыклапедыі «Максім Багдановіч» так вызначае багдановічаўскія зацікаўленні Янкі Брыля: «…Я. Брыль адзначаў: «Трохі пазней, у юнацтве, прыйшоў, раскрыўся Багдановіч, народнасць якога, культура і чалавечая абаяльнасць з тых дзён хвалююць мяне, як нейкі своеасаблівы сімвал сваяцтва з вялікай рускай літаратурай, якой я абавязаны найбольш» («Пяцьдзесят чатыры дарогі. Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў», Мінск, 1963). Брыль прысвяціў артыкул «Жменя сонечных промняў: лірычныя нататкі» («Маладосць», 1967, № 1, 8), «Я не самотны» (Брыль Я. Зб. тв. у 5 тамах. Мінск, 1981, т. 4), «Яго імя» («Маладосць», 1981, № 12). Аўтар дзеліцца сваім успрыманнем твораў паэта: «… так хвалююць мяне многія вершы Багдановіча, многія і да апошняга — выключнага па сваёй прастаце і насычанасці чатырохрадкоўя» («Я не самотны»). Асабліва выдзяляе мілагучнасць і прыгажосць мастацкага слова, «дзіўнае і цудоўнае адчуванне» ад яго лёгкасці і пранікання да найтанчэйшых струн чалавечай душы».

27 сакавіка 1969 года пазначаны яшчэ адзін эпісталярны зварот Янкі Брыля да Алеся Бачылы: «Дарагі Алесь! Па даведніку «Ялта», дзе памылкова пададзены каардынаты дома, я трапіў не туды, куды трэба, і, дайшоўшы да першага кіёска, напісаў Табе. Назаўтра мне паказалі іншы дом і назвалі Андэрсанаў… На магіле быў, але васількоў яшчэ не сеяў — хай цяплей стане, бо некалькі дзён было 02. Вось так. Будзь здароў! Я. Брыль».

Несумненна, гэтыя кароткія лісточкі, якія зараз захоўваюцца ў Пухавіцкім раённым краязнаўчым музеі, — напамін пра тое, што і Алесь Бачыла, і Янка Брыль у стасунках з памяццю пра Максіма Багдановіча ўяўляюць і асобныя тэмы даследаванняў.

…Яшчэ адзін «эпісталярны ўспамін» з пухавіцкай скарбонкі архіва Алеся Бачылы. Ліст ад Канстанціна Ваншэнкіна — ад 9 лістапада 1967 года: «Дорогой Алесь! Сердечное спасибо за книгу и за поздравление.

Очень жалею, что не могу почитать стихи, — пробовал, но почти ничего не получается. С удовольствием вспоминаю о наших встречах, к сожалению, слишком кратковременных, и желаю со своей стороны многих радостей и удач в работе и вообще в жизни, а также добра всем близким. Сердечный привет А.А. Обнимаю К. Ваншенкин».

Канстанцін Ваншэнкін — савецкі і рускі паэт, аўтар слоў песні «Я люблю цябе, жыццё», «Алёша»… Нарадзіўся ў 1925 годзе. Памёр у 2012-м… Франтавік. Відаць, і ў час кароткіх сустрэч ім — Вашэнкіну і Алесю Бачылу — было пра што пагаварыць. А працытаваная эпістолярная згадка — як напамін пра той далёкі час…

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# Для нас яна была Нэляй Іванаўнай…



**Разгарнула газету «Звязда» і ўбачыла на здымку такі знаёмы твар. Гэта Нэлі Іванаўна Тулупава — такая ж прыгожая бландзінка, якую добра ведала шмат дзясяткаў гадоў таму. А справа складвалася так. Я займалася ў Горацкай сельгасакадэміі ў тыя гады, калі яна была рэдактарам студэнцкай газеты «Советский студент». Таленавітая жанчына згуртавала вакол сябе з розных факультэтаў тых студэнтаў, якія ў нейкай ступені мелі здольнасці да літаратуры, пісалі вершы. Тады пры сельгасакадэміі быў створаны факультэт грамадскіх прафесій, 13-ы па ліку. Адно з яго аддзяленняў — журналістыка, якім і кіравала Нэлі Іванаўна. Мы пісалі заметкі ў газету пра студэнцкае жыццё, уражанні ад вучобы...**



А вечарамі пасля заняткаў збіраліся ў аўдыторыю рэдактара, і Нэлі Іванаўна чытала свае вершы, рэдагавала нашы, вучыла, як правільна пісаць, як разумець паэзію і многае іншае. За кубачкам гарбаты мы спявалі песні. У яе быў цудоўны голас.

Памятаецца, як выйшла з друку чарговая невялікая кніжачка вершаў Нэлі Іванаўны. Як цяпер бачу яе ў руках паэтэсы — радаснай і шчаслівай.

Жыццё рухалася сваёй чаргой. Нэлі Іванаўна паехала ў Мінск. Дзейнасць газеты «Советский студент» працягвалася. Рэдактарамі станавіліся іншыя таленавітыя журналісты (дарэчы, дасылалі мне газету на працягу некалькі дзясяткаў гадоў). Пасля двух гадоў вучобы на факультэце грамадскіх прафесій здавалі экзамены, і нам выдалі пасведчанні, з якімі мелі права працаваць журналістамі.

Я закончыла сельскагаспадарчую акадэмію па спецыяльнасці «Інжынер-землеўпарадкавальнік». Адпрацавала належны тэрмін па спецыяльнасці. А затым стала журналісткай і на працягу 31 года загадвала сельскагаспадарчым аддзелам рэдакцыі Шаркаўшчынскай раённай газеты «Кліч Радзімы». Паралельна займалася паэзіяй, пісала прозу. У дзяржаўных выдавецтвах выдала пяць кніжак паэзіі і прозы. У сваіх творчых характарыстыках пішу, што дарогу ў журналістыку і паэзію мне адкрыла менавіта Нэлі Іванаўна Тулупава.

Закончыўшы навучальную ўстанову, кожны з нас вызначыў дарогу. І шляхі з Н. І. Тулупавай разышліся. Праз колькі год выдаўся выпадак (пасля друку ў газеце), мы зноў узнавілі сувязь. Сталі тэлефанаваць адна адной, пісаць пісьмы. Не памятаю ўжо, з якой нагоды, але ў мяне захаваліся два лісты, напісаныя ёй у цяжкі 1991 год. 25 гадоў яны ляжаць у маіх архіўных дакументах.

Калі ў 1992 годзе я ў сябе на радзіме стварыла літаратурнае аб'яднанне, Нэлі Іванаўна давала парады, як аднасіцца да пачынаючых паэтаў, ацэньвала мае творы. Калі яна працавала ў часопісе «Вожык», запрашала дасылаць гумар. Дарэчы, я не паспела надрукаваць жартоўную паэму «Праскоўі адпачынак», яна цяжка захварэла і пакінула працу. Але дома па магчымасці працягвала пісаць і мне чытала па тэлефоне новыя вершаваныя творы.

Нэлі Іванаўна падтрымлівала сувязь і з іншымі былымі студэнтамі акадэміі, якія супрацоўнічалі тады з ёй у рэдакцыі, — Галяй Маленчык, Алесем Емяльянавым і іншымі, глыбачанкай Галяй Сутула.

Вельмі ўзрушыў мяне ліст, у якім яна пісала, што цяжка захварэла і да яе трэба звяртацца як да манахіні Неанілы. Цяжка было паверыць, як такая прыгожая, добрая, вясёлая, дасціпная жанчына раптам стала… Але для мяне яна засталася такой, як у студэнцкія гады, — прыгожай і вясёлай.

**Кацярына СОСНА,**
**член Саюза пісьменнікаў Беларусі.**
**Фота з сямейнага архіва Алесі і Валерыі Саротнік, дачкі і ўнучкі Нэлі Тулупавай**

# Дагестан. Лірычнае

**Паэт, перакладчык, скульптар, мастак, кампазітар… Ці можа адзін чалавек сумяшчаць столькі здольнасцей? Хізры Асадулаеў, які днямі адзначыў 60-годдзе, — дакладна!**

Падчас творчага вечара ў Доме Масквы юбіляра віншавалі прадстаўнікі Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Белая Русь», Міжнароднага грамадскага аб'яднання дагестанцаў «Гаро» (праўленне якога ўзначальвае Хізры Асадулаеў), Саюза пісьменнікаў Беларусі, Беларускага саюза музычных дзеячаў ды іншых арганізацый. Творчасць Хізры Асадулаева, выхадца з Дагестана, які ўжо шмат гадоў жыве ў нашай краіне, ведаюць і любяць.

Не засталіся ўбаку ад свята і калегі Хізры Газіевіча па творчым цэху. На думку старшыні Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхася Пазнякова, які ўручыў юбіляру медаль «За вялікі ўклад у літаратуру», Хізры Асадулаеў шмат зрабіў для паразумення культур Беларусі і Дагестана. Галоўны рэдактар часопіса «Новая Немига литературная», паэт Анатоль Аўруцін прысвяціў Хізры Газіевічу верш, а яшчэ прадставіў свае пераклады вершаў Асадулаева на рускую мову.

Прывітальны адрас Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь Леаніда Гулякі зачытала яго намеснік Алена Радчанка. «Ваша актыўная дзейнасць па папулярызацыі культурнай спадчыны дагестанскага народа ў Беларусі, умацаванні міжнацыянальнай згоды і пашырэнні міжкультурнага дыялогу ў беларускім грамадстве выклікае заслужаную павагу», — адзначана ў віншаванні.

— Уся творчасць Хізры Асадулаева прасякнута глыбокім псіхалагізмам, скіравана ў будучыню, — упэўнены прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Міхаіл Солапаў.

Гледачам прыйшліся даспадобы танцавальны падарунак юбіляру — лезгінка ў выкананні ансамбля «Легенда Каўказа» і музычны — яго творы ў выкананні студэнткі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Дар'і Елісеевай (флейта). Вершы Хізры Асадулаева падчас імпрэзы дэкламавалі навучэнцы сталічных гімназій, філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта. У аўтарскім выкананні прагучаў яго вальс «У зімовую ноч». Юбіляр таксама чытаў уласныя творы ў перакладах на беларускую Рыгора Барадуліна.

Тут жа, у Доме Масквы, разгарнулася выстаўка мастацкіх работ Хізры Асадулаева, якая зацікавіла гасцей не меней, чым імпрэза.

**Яна ЯВІЧ**

# Прысвечана Жанчыне



Яе імя асацыюецца з глыбокай лірыкай пра ўнутраны свет дачкі, маці, бабулі, непаўторнасць і ўнікальнасць жаночай душы… У Літаратурным музеі Максіма Багдановіча адкрылася выстаўка да 70-годдзя з дня нараджэння пісьменніцы, перакладчыцы, літаратуразнаўцы Валянціны Коўтун.

Адкрыццё экспазіцыі пачалося вечарынай памяці. Успомніць творцу цёплым словам у музей завіталі родныя, сябры, калегі, прыхільнікі яе творчасці. Госці чыталі любімыя вершы паэтэсы, прыгадвалі абставіны, пры якіх адбылося знаёмства з ёй, цікавыя выпадкі з жыцця. Прысутныя ўспаміналі Валянціну Міхайлаўну не толькі як выдатную пісьменніцу, але і як шчырага, светлага чалавека, гатовага заўсёды даць параду і дапамагчы. Узгадалі і грамадскую дзейнасць творцы: Валянціна Коўтун была заснавальніцай і старшынёй адной з першых жаночых арганізацый нашай краіны — Усебеларускага жаночага фонду святой Еўфрасінні Полацкай.

Экспазіцыю, падрыхтаваную супрацоўнікамі ўстановы, склалі фотаздымкі, кнігі, рукапісы, асабістыя рэчы. Асаблівае месца займаюць выданні раманаў «Крыж міласэрнасці» і «Пакліканыя», што сталі яскравым прыкладам мастацкага асэнсавання дзейнасці Еўфрасінні Полацкай і Цёткі. Наведвальнікі змогуць прасачыць жыццёвы і творчы шлях Валянціны Коўтун, ацаніць яе ўклад у літаратурную скарбонку Беларусі, глыбей зразумець асобу гэтай незвычайнай і таямнічай жанчыны.

Валянціна Коўтун пакінула свет заўчасна, у росквіце творчых сіл. З-пад пяра творцы выйшлі каля пяці паэтычных зборнікаў і вялікая колькасць празаічных твораў. «Але многае засталося ненапісаным, — адзначыла дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка. — Валянціна Коўтун магла б зрабіць яшчэ вельмі шмат, і я спадзяюся, што яе творчая спадчына стане асновай для будучых літаратуразнаўчых прац. Творчасць пісьменніцы яшчэ дасканала не вывучана і хавае шмат загадак і таямніц, якія чакаюць даследавання».

**Ганна ПАЛЯКОВА**

*У пісьменніцкім асяродку*

# Проза, прыгоды і «Адкрыццё года»

Экспертны савет Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі падвёў вынікі па разглядзе творчасці кандыдатаў на суісканне штогадовай літаратурнай прэміі маладым літаратарам сталіцы «Адкрыццё года». З 16 намінантаў на гэтую прэмію за 2015 год перавага аддадзена маладой паэтэсе, выпускніцы фізічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта Таццяне Купрыянец. Прэмія ёй прысуджана за кнігу вершаў «Водгукі памяці», якая летась пабачыла свет у кніжнай серыі МГА СПБ «Мінскія маладыя галасы». Дарэчы, у мінулым годзе Таццяна заняла І месца ў рэспубліканскім конкурсе сярод маладых паэтаў, што ладзіўся ў Брэсце, у намінацыі «Што помніць выратаваны свет?», і перамагла ў міжнародным паэтычным конкурсе сярод маладых паэтаў у намінацыі «Патрыятычны верш» (г. Масква). А сёлета паэтэса прынятая ў СПБ. Прэмію «Адкрыццё года» Таццяна Купрыянец атрымала ў Доме Масквы.

Чарговая сустрэча ў межах літаратурнага клуба «Шчырасць» пры сталічнай публічнай бібліятэцы № 22 дала магчымасць пазнаёміцца з творчасцю празаіка, крытыка, публіцыста, намесніка старшыні Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Наталіі Касцючэнка. Пра гэта рэдакцыя «ЛіМа» даведалася ад загадчыка бібліятэкі Наталлі Ярашэвіч. Акрамя сяброў клуба на сустрэчу завіталі навучэнцы і выкладчыкі Мінскага дзяржаўнага тэхналагічнага каледжа ды курсанты ваенна-тэхнічнай кафедры БНТУ.

Наталія Касцючэнка піша ў жанры псіхалагічнай споведзі, у творах паўстае як тонкі псіхолаг. Падчас імпрэзы яна прадставіла ўрыўкі са свайго рамана «Вярба над вірам», прыгадала родныя палескія мясціны, блізкіх.

Болем у душы Наталіі Касцючэнка адгукнулася чарнобыльская трагедыя. Так, апавяданне «Вяртанне» — пра перасяленцаў, якія сумуюць па родных мясцінах, і не могуць прыжыцца на новым месцы.

Творы пісьменніцы Людмілы Рублеўскай заварожваюць! Не выключэнне і прыгодніцкая гісторыя пра авантурыстаў Пранціша Вырвіча і Баўтрамея Лёдніка. Як распавяла рэдакцыі «ЛіМа» супрацоўніца Гатаўскай сельскай бібліятэкі Дзіяна Шарук, падчас сустрэчы з чытачамі ў кніжніцы Людміла Іванаўна прадставіла чацвёртую частку рамана, якая зусім нядаўна пабачыла свет у электроннай версіі. Галоўныя героі кнігі зноў выпраўляюцца ў падарожжа — гэтым разам у Францыю…

Дзякуючы такім творам міжволі паглыбляешся ў даўніну, успамінаеш гісторыю родных мясцін. Падчас імпрэзы чытачы бібліятэкі даведаліся пра цікавыя мясцічныя гісторыі з жыцця Мінска, пра вядомых гістарычных дзеячаў.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

# Коласава блаславенне

Новых сяброў Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі ўрачыста віталі ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа. Гэтым разам білеты і значкі СПБ атрымалі паэтэсы Таццяна Жылінская, Ганна Мартынчык-Сцяпанава і Юлія Алейчанка, якая займаецца яшчэ і перакладамі.

Падчас вечарыны галоўныя гераіні распавялі гледачам пра сваю творчасць, чыталі ўласныя вершы. Да віншаванняў далучыліся сябры СПБ Мікола Шабовіч і Яна Явіч — дарэчы, таксама ў паэтычнай форме. Некалькі музычных нумароў падарылі публіцы педагог, сябра Беларускага саюза кампазітараў Эла Андрэенка са сваімі вучаніцамі.

Творцы, што атрымліваюць членскія білеты Саюза пісьменнікаў Беларусі ў Коласавым доме, могуць называць сябе коласаўцамі, лічыць старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў. Для трох паэтэс імпрэза сталася своеасаблівым словам на дарогу — ад самога Коласа!

**Арына КРАЙКО**

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**18 красавіка** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай Алінай Легастаевай, якая пройдзе ў актавай зале БДУІР (вул. Гікалы, 9). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**19 красавіка** — *на свята дзіцячай кнігі «Мелодыя радка» ў публічную бібліятэку № 21 (вул. Слабадская, 63) з удзелам пісьменніка, старшыні МГА СПБ Міхася Пазнякова. Пачатак а 12-й гадзіне.*

**19 красавіка** — *на творчы вечар паэтэсы Вольгі Пераверзевай ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна (вул. Гікалы, 4). Пачатак у 18.30.*

**20 красавіка** — *у клуб творчых жанчын «Спадарыня» на паэтычна-музычную імпрэзу з нагоды Міжнароднага дня малалетніх вязняў канцлагераў, якая пройдзе ў Дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны (канферэнц-зала). Пачатак а 18-й гадзіне.*

**20 красавіка** — *у літаратурны клуб «Радзіма» (вул. Нікіфарава, 13) на творчую сустрэчу з групай паэтаў. Пачатак а 16-й гадзіне.*

**20 красавіка** — *у літаратурны клуб «Шчырасць» пры публічнай бібліятэцы № 22 (вул. Я. Чачота, 23) на творчую сустрэчу з паэтам Змітраком Марозавым. Пачатак а 16-й гадзіне.*

**21 красавіка** — *у літаратурны клуб «Спадчына» на творчую сустрэчу з пісьменнікам Аляксандрам Вашчанкам, якая пройдзе ў гімназіі № 35 (вул. Кіжаватава, 70). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**21 красавіка** — *у літаратурны клуб «Парнас» пры публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2) на прэзентацыю кніг маладых паэтаў у кніжнай серыі МГА СПБ «Мінскія маладыя галасы». Пачатак а 18-й гадзіне.*

**21 красавіка** — *на XXII Мінскія паэтычныя чытанні ў публічную бібліятэку № 7 (вул. Пляханава, 97/4). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**22 красавіка** — *на вечар духоўнай паэзіі і песні «У чаканні Светлага дня» ў Палац мастацтва (вул. Казлова, 3). Пачатак а 17-й гадзіне.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**19 красавіка** — *на сустрэчу з паэтамі Мікалаем Балдоўскім, Пятром Буганавым і Галінай Загурскай, якая адбудзецца ў межах літаратурнага вечара (батла) «Беларускія пісьменнікі-юбіляры» ў Полацкім дзяржаўным лясным каледжы (вул. Еўфрасінні Полацкай, 77). Пачатак а 15-й гадзіне.*

### Гомельскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**19 красавіка** — *на творчую сустрэчу «Браты нашы меншыя ў кнігах Таццяны Маісеевай і Андрэя Мацвеенкі» з удзелам аўтараў у бібліятэку-філіял № 15 г. Гомеля (вул. Яфрэмава, 2, к. 1). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**19 красавіка** — *на вечарыну «Загадка Шэкспіра» ў межах літаратурнай гасцёўні маладых аўтараў Гомеля «31 мерыдыян» у Цэнтральную гарадскую бібліятэку імя А. І. Герцэна (вул. Савецкая, 26). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**21 красавіка** — *на сустрэчу з айцом Савам (Мажука) «Вергілій і хрысціянскі свет» у межах цыкла «Кола чытання» ў Цэнтральную гарадскую бібліятэку імя А. І. Герцэна (вул. Савецкая, 26). Пачатак у 17.30.*

### Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**21 красавіка** — *на літаратурныя сустрэчы ў раённых бібліятэках Вялікай Бераставіцы, Ваўкавыска і Зэльвы ў межах Тура грамадзянскай паэзіі з удзелам гродзенскіх і мясцовых паэтаў. Пачатак: Вялікая Бераставіца — 10.00; Ваўкавыск — 13.30; Зэльва — 16.00.*

**19 красавіка адбудзецца пасяджэнне савета Мінскага абласнога аддзялення СПБ (г. Мінск, плошча Свабоды, 13). Пачатак а 12-й гадзіне.**

# Пасляслоўе да фестывалю



*Сцэна са спектакля «У маленькай сядзібе» Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра.*

Моладзевы міжнародны форум «М@рт-кантакт» — адно з самых прэстыжных тэатральных святаў у нашай краіне. Сёлета форум адзначыў адзінаццаты дзень нараджэння і замацаваў свой аўтарытэт як з’ява высокамастацкая з шырокай адукацыйнай праграмай.

Мне пашчасціла быць адным са сваякоў гэтага адзінаццацігадовага падлетка. Удзельнічала ў яго сталенні з першага дня, судзіла ў журы, абмяркоўвала спектаклі ў складзе крытыкаў, была экспертам. Чаго хаваць, часта думкі тэатральных прафесіяналаў і простых гледачоў разыходзяцца. У гісторыі фестывалю былі спробы стварыць тры журы: аўтарытэтныя крытыкі, галоўны трэнер і глядацкае. Сёлета наогул абышлося без журы. І ўсё роўна меркаванні сутыкаюцца, супадаюць, разыходзяцца.

У штодзённай праграме абавязковае ранішняе абмеркаванне ўсіх паказаных напярэдадні спектакляў. Крытыкі з Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Германіі выказваюцца грунтоўна, аргументавана, пазбягаючы адзнак «падабаецца — не падабаецца». У кожнага, хто ўдзельнічае або прысутнічае на такіх абмеркаваннях, складваецца цалкам рэальная аб’ектыўная карціна. Але варта прачытаць прэсу пра фэст — часам карціна рэзка мяняецца. Свае высновы выказваюць тыя, хто спектакляў не бачыў. Ацэнкі даюць тыя, хто да Магілёва ў гэтыя дні не набліжаўся. І аргументы часам забойныя: нам, гледачам, такое не трэба. Якое такое? Мала зразумелае. Расказанае на вельмі складанай тэатральнай мове. Практыка паказвае іншае. Магілёўскі фестываль найвышэйшага еўрапейскага ўзроўню павольна і ўпарта мяняе мастацкую свядомасць магілёўскай публікі. Гэта галоўная яго задача. Другая мэта — азнаямленне з эксперыментальнымі тэатрамі СНД і Еўропы, іх напрамкамі і школамі. Трэці момант — паказаць, падтрымаць, прасунуць сваіх маладых драматургаў, акцёраў, рэжысёраў. Перш за ўсё рэжысёраў, на якіх пакуль яшчэ скептычна глядзяць у дзяржаўных тэатрах. А тут ужо многія з іх шляхам спроб, памылак і каштоўнага вопыту атрымалі пуцёўку ў вялікае тэатральнае жыццё. Гэта Кацярына Аверкава, Ігар Казакоў, Яўген Карняг, Дзмітрый Багаслаўскі, Таццяна Траяновіч, Сяргей Анцэлевіч. Паспрабуем паразважаць, якія пасланні пра жыццё атрымалі мы са сцэны ў фестывальны тыдзень і якія правакацыйныя формы спектакля прапануе сучасная рэжысура.

З тэматыкай п’ес усё больш-менш зразумела. Тут шмат «праверанай часам класікі»: **«Гульцы»** і **«Шынель»** Гогаля, **«Майстар і Маргарыта»** Булгакава, **«Васа Жалязнова»** і **«На дне»** Горкага, **«Жаніцьба Бальзамінова»** Астроўскага, **«Варшаўская мелодыя»** Зорына, **«Лысая спявачка»** Іанэска, апавяданні Васіля Шукшына.

З «незразумелага» і доўга чаканага былі **«Інтэрв’ю з ведзьмамі»** Дзяржаўнага тэатра лялек, **«Бракаваныя людзі»** тэатра «Залатыя вароты» з Кіева, **«Тры разы кароль»** тэатра «Зялёны соус» з Франкфурта-на-Майне, **«У маленькай сядзібе»** Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра, **«Жыццё за цара»** з Санкт-Пецярбурга.

Натуральна, што фестываль зблытаў усё чаканае і нечаканае. Натуральнае, лёгкае спалучалася з ашаламляльным, трагічным. Часам класіка ператваралася ў перформанс, як гэта здарылася з польскім **«Майстрам і Маргарытай»**, расійскай **«Васай»**, армянскім монаспектаклем паводле Чэхава **«Пра шкоду тытуню»**, чарнігаўскай **«Варшаўскай мелодыяй»**. Шчодрае выкарыстанне мультымедыйных эфектаў, мастацтва пластыкі, сацыяльных каментарыяў, візуальных фантазій стваралі, як казаў класік, «калейдаскапічны шматтэмны дыскурс», у якім першапачатковы сэнс літаратурнага твора сыходзіў на задні план. Захапленне перформансам захоўваецца ў рэжысёраў сярэдняй рукі, якія не ўмеюць ці свядома не хочуць паглыбляцца ў індывідуальнасць аўтара п’есы, шукаць і абапірацца на метафары, якім цікавыя капрызы ўласнай мастацкай волі. Мяне збянтэжыў Анатоль Ледухоўскі першым варыянтам горкаўскай «Васы Жалязновай». Таленавіты эксперыментатар навыдумваў столькі смешных, агрэсіўных, у духу сучаснага крыміналу малюнкаў жыцця і знакаў масавай культуры, што нармальная псіхалогія гледача адмаўлялася палюбіць або паспачуваць камунебудзь з герояў, зразумець Горкага альбо захапіцца рэжысёрскай фантазіяй. Чаго дамагаліся? Не, не новага погляду на п’есу і яе герояў. Дамагліся адчування непрыязнасці да такога тэатру, дзе ўсё — выродкі. Сярод іх не хочацца жыць. На іх нецікава глядзець.

На мой погляд, залішняй агрэсіўнасцю адрозніваюцца спектаклі нашых маладых перспектыўных рэжысёраў Ігара Казакова (**«На дне»**) і Яўгена Карняга (**«Інтэрв’ю з ведзьмамі»**). Агрэсіўнасць можна разумець як сігнал асобы, якую адольваюць сумневы, раздражненне, няўпэўненасць. Тады ўзнікаюць цынізм і жорсткасць, празмернасць адрэналіну ў крыві, і з’яўляюцца людзі-монстры, лялькі-монстры. Псіхалагічныя комплексы рэжысёраў вылазяць вонкі ў выглядзе персанажаў-пачвар. Першапачатковая ідэя спектакляў пра людзей з няшчаснымі лёсамі тоне ў гатычнай цемры і шуме, у абстаноўцы ўсёдазволенасці. А чалавек няшчасны, пагадзіцеся, заслугоўвае не кпінаў, не адкінутасці, а разумення і суперажывання. У спагадзе вечная сіла тэатра. Яна невядомая тэатру радыкальнаму.

На фоне такога беларускага радыкальнага тэатра, у якога, дарэчы, шмат маладых прыхільнікаў, вельмі прывабна выглядаюць працы Кацярыны Аверкавай **«Тры разы кароль»** і Таццяны Траяновіч **«Ілюзіі»**. Спектакль Аверкавай прызначаны для дзіцячай аўдыторыі, дзе казка як форма мастацкага твора тоіць у сабе глыбокія і магутныя магчымасці для развіцця маладых талентаў. Дзеці, якія яе паглынаюць, магчыма, у будучыні стануць казачнікамі, рэжысёрамі, акцёрамі, яны вострa рэагуюць на мастацкую хлусню. Праца Аверкавай заснавана на блазанскай імправізацыі, поўная гумару і дабра. Рэжысёр заклала ў яе і сур’ёзную тэму. Калі нягрозныя і нястрашныя каралі пачынаюць кідацца паралонавымі лялькамі, ірваць і ціснуць іх, адразу ж думаецца пра вайну. Любая бойка можа перарасці ў вайну. Пра гэта трэба казаць не толькі з дзецьмі, але і з дарослымі.

Спектакль «Ілюзіі» Таццяны Траяновіч па-свойму працягвае тэму спляцення гумару і трагізму. Тэкст (не п’еса) Івана Вырыпаева не разбіраецца з пункту гледжання дзейнага аналізу. Па ўсіх прыкметах гэта постдрама, у якой няма развіцця сюжэта і сцэнічных вобразаў. Але «*post*» перакладаецца як пошта, ці пасланне. Такім чынам, стваральнікі спектакля адрасуюць сваю размову тым, каго хвалюе іх гісторыя. Спектакль пазіцыянуе сябе так: гэта размова пра каханне. Галоўная энергія жыцця — каханне. Яна ўласцівая чалавеку як рытм сэрца. У кахання няма ніякіх правілаў і фармулёвак. Каханне — гэта такая сіла, якая выходзіць з усіх берагоў і разбурае ўсе перашкоды.

Заяўка смелая і адчайная, вызваленая ад жыццёвай мітусні і ўсведамлення трагічнасці быцця.

Таццяна Траяновіч прапануе свабодную імправізацыю п’есы. Прывабна і рызыкоўна, хоць сёння гэта новая філасофія тэатра. Любы аўтарскі спектакль нешта адмаўляе, ламае, перарабляе. Калі ж ён абапіраецца на фантазію таленавітых выканаўцаў, прыходзіць поспех.

Ад сціплага тэатральнага педагога і рэжысёра Таццяны Траяновіч хочацца плаўна перацячы ў свет піцерскага Дон Кіхота Рыгора Казлова. Ён паказаў адзін з лепшых спектакляў фестывалю **«Мроі кахання, або Жаніцьба Бальзамінава»**. Спектакль камедыйны, паэтычны, інтымны, напоўнены сонцам, чысцінёй, запалам мараў. Гэта вельмі рускі спектакль. Узор традыцыйнай школы псіхалагічнага тэатра на новым вітку спіралі. Выкарыстоўваючы гістарычны касцюм і некалькі старамодны тэкст п’есы Астроўскага, маладыя выканаўцы жывуць у спектаклі абсалютна сучасна. Без архаікі купецкага побыту, без мітусні і гонкі за крыклівай формай, пад лёгкае хваляванне простых фіранак, за якімі адгадваецца бясконцая прастора. Таксама лёгка спалучаюцца жорсткі «Палёт» Вагнераўскай Валькірыі з рамантызмам Шапэна, а маладая энергія ўчорашніх студэнтаў — са свабодай імправізацый умелых майстроў.

У кожнага крытыка ёсць любімыя і не любімыя драматургі. Сярод прадстаўнікоў «новай драмы» асабіста мне Васіль Сігараў ніколі не быў цікавы. Цяпер разумею: таму што не бачыла спектакля кіеўскага тэатра «Залатыя вароты». Рэжысёр Стас Жырко здолеў улавіць пасланы драматургам імпульс і стварыў спектакль абсалютна аўтарскі, прыдумаўшы неверагодна пранізлівую гісторыю, здавалася б, з нічога і нават з пошленькага адзюльтэра.

Акцёры існуюць у прапанаваных абставінах абсалютна па-новаму, у нябачанай асабіста мной новай пластыцы і ў такім паглыбленні ў вобраз, з якога ні на секунду не вынырваюць. Здаецца, што парушаныя ўсе класічныя законы майстэрства, і нарадзілася ў найвышэйшай ступені імправізацыйная манера ў вольным бязмежным плаванні. Які жанр спектакля? Абсурд з элементамі мата? Трагікамедыя? Хутчэй камедыйная трагедыя. Таму што не са смехам сыходзіш са спектакля, а з адчуваннем глыбокай сур’ёзнай упэўненасці, што далей, колькі б ты ні смяяўся, усё дрэнна скончыцца з гэтай зусім не дурной галоўнай гераіняй Тамарай. Спектакль праз смешны сучасны побыт дасягае антычнага гучання. Ён нібы вяртае нас да першапачатковай прыроды тэатра — балявання акцёра. Толькі цяпер дзеяннямі ўмела кіруе таленавіты рэжысёр.

Гаспадары фестывалю — Магілёўскі тэатр — паказалі спектакль **«У маленькай сядзібе»**, зроблены па п’есе польскага драматурга Станіслава Віткевіча, чые творы амаль невядомыя тэатрам Беларусі. Яны звязаны выключна з еўрапейскімі сцэнамі і перш за ўсё з Польшчай. Аўтар прышоў у тэатр ад жывапісу і сфармуляваў «тэорыю чыстай формы», за што яго назвалі папярэднікам абсурдыстаў. Яго не цікавяць канфлікты нармальных людзей і псіхалагічныя матывы ўчынкаў. Ён заклікае трымацца далей ад жыцця, не шукаць логікі паводзін. Цяжка вызначыць, чаго больш у творчасці Віткевіча: літаратурнага таленту ці філасофскай сузіральнасці. Менавіта гэта, апошняе, вызначае існаванне яго п’ес у прасторы сноў, а яго герояў робіць падобнымі на вар’ятаў. Суцэльная метафізіка. У снах чаго толькі не здасца!

Віткевіч стаяў ля вытокаў новага тэатра ХХ стагоддзя і пісаў так: «Трэба, каб пасля выхаду з тэатра ў гледача заставалася ўражанне, што ён прачнуўся ад нейкага мудрагелістага сну, у сярэдзіне якога самыя звычайныя рэчы раптам набывалі дзіўнае зачараванне».

Глядач, які пазнае ўсё гэта пра Віткевіча, адразу зразумее, чаму ў магілёўскай пастаноўцы існуюць і зачароўваюць усе адхіленні ад класічнай мадэлі пабудовы спектакля. Захапленне містыкай, характэрнае для першай паловы ХХ стагоддзя (менавіта тады і пачаў пісаць Віткевіч), вярнулася па-свойму ў наша ХХІ стагоддзе ў некалькі змененым, больш цвярозым выглядзе. Містыцызм абапіраецца на вельмі суб’ектыўнае вывучэнне і тлумачэнне з’яў пры дапамозе пашыранай інтуіцыі. Гэта і дэманструе ў рэжысёрскім вырашэнні Саўлюс Варнас. Ён прапануе дэкаданс, характэрны для рускай культуры, што праяўляецца ў манеры паводзінаў артыстаў, касцюмах, прыдуманых Юратэ Рачынскайтэ. Часам гэта таленавітая пародыя на дэкаданс. Ды і містыка нам, людзям ХХІ стагоддзя, здаецца падобнай на казачную. У тэатральнай мове спектакля шчодра выкарыстоўваюцца духоўныя практыкі Усходу, медытацыі, рытуальныя формы. Чатыры акрабаты па парэнчах ложаў з залы рухаюцца на сцэну і далей здзяйсняюць там мноства трукаў. У акцёрскім выкананні пераважае гратэскная рэзкасць. Тэатр жывапісны заўсёды і падобны на шчодры яскравы карнавал. Але тут адбываецца тэатралізацыя тэатра, што праяўляецца ў музычнай форме прамовы, амаль танцавальных жэстах, раскошных архітэктанічных мізансцэнах. Шчодрае беларускае барока. Фантастыка. Гратэск.

Модная сёння ў тэатрах праца з дакументамі, жывыя інтэрв’ю, аб’яднаныя адной тэмай, вельмі арыгінальна прагучалі ў спектаклі пецярбуржцаў **«Жыццё за цара»**. У горадзе на Няве артысты «Тэатра дзі Капуа» іграюць у старой піцерскай кватэры пачатку ХХ стагоддзя. Такой сцэнічнай пляцоўкі ў Магілёве не знайшлося. Прапанавалі іграць у Музеі этнаграфіі сярод экспанатаў. Самымі ўдзячнымі гледачамі аказаліся студэнты педагагічнага ўніверсітэта імя А. Куляшова. Дакументы рускіх рэвалюцыянераў і старанна адабраныя тэксты Льва Талстога і Фёдара Дастаеўскага злучыліся ў складаную мазаіку аб паўтаральнасці часоў. Студэнты так уразіліся, што прапанавалі прызнаць «Жыццё за цара» лепшым спектаклем фестывалю.

Пра слабае казаць не хочацца. Некалькі спектакляў ня ўпісваліся ў вызначэнне «фестывальны». Гэта была будзённая касавая страва тэатраў у жанры камедыі, вельмі ўпадабаная нашым гледачом. Ёй таксама горача апладзіравалі, напэўна, за адсутнасць рэбусаў.

Усе напрамкі развіцця сучаснага тэатра, якія фарміраваліся і развіваліся на працягу нашага ХХІ стагоддзя, былі прадстаўлены на «М@рт-кантакце-2016». Вакол іх ужо сфарміравалася кола добра падрыхтаваных крытыкаў, рэжысёраў, драматургаў, скептыкаў, зацікаўленых гледачоў, якім неабыякавыя новыя прынцыпы тэатра, што нараджаюцца ў чытках, лабараторыях, падвалах, на кухнях. Рана ці позна гэта новае абавязкова праб’е сабе дарогу на вялікую сцэну. У гэтым сэнсе фестываль — магутны пражэктар тэатральнага працэсу.

**Таццяна АРЛОВА**

# Такое жыццё



Кадр з фільма «Кансьерж».

**«Пагружэнне ў кіно» — пад такім дэвізам сёлета праходзіць фестываль кароткаметражнага кіно «*Cinema Perpetuum Mobile*». І гэта сапраўды пагружэнне, бо, па-першае, глядач павінен «нырнуць» углыб кінематографа, па-другое, стужкі вельмі эмацыянальныя і пранізлівыя: паглядзеўшы, адчуеш якраз тое, што адчуваў бы, акунуўшыся ў мора.**

## ГІСТОРЫІ ПРА НАС

Асаблівы момант для «*Cinema Perpetuum Mobile*» — паказы беларускай праграмы. Гэтая секцыя на фестывалі перажывала цяжкія часы: дастатковая колькасць фільмаў не заўсёды набіралася, якасць стужак пакідала жадаць лепшага. Але сёлета беларускія фільмы здзіўляюць разнастайнасцю: прыйшла так званая «новая хваля», лічыць каардынатар беларускай праграмы *CPM* Ганна Рожанцава:

— Сёлета мы адабралі для гледача фільмы, якія лёгка глядзяцца і нясуць агульную ідэю. Фільмы лакальныя, расказваюць пра жыццё беларусаў. Мы выбіралі стужкі не падобныя да блокбастараў, гэта наш самы жорсткі крытэрый, бо не хочацца бачыць шаблоны на экране, хочацца сапраўднага, што кранае важныя тэмы.

*CPM* — фестываль, дзе не ўбачыш акцёраў з вокладак глянцавых часопісаў ці прыгожых карцінах, якім ні за што не паверыш. «*Cinema Perpetuum Mobile*» — альтэрнатыўная пляцоўка для гледачоў, якія хочуць зразумець, што беларускі кінематограф — не толькі стужкі пра партызанаў і серыялы, знятыя для Расіі, а што гэта сапраўды вартае, цікавае і актуальнае кіно.

## А ТЫ ЯКІ БЕЛАРУС?

Напрыклад, стужка «Кансьерж» Роберта Сенекі, калі прыглядзецца, — гісторыя кожнага беларуса, які хоць раз сутыкаўся з пытаннем выбару. Тут ёсць людзі, якія абсалютна не зацікаўленыя ў працы, якую робяць (сакратар у працоўны час іграе ў камп'ютарныя гульні), людзі, абыякавыя да ўсяго ўвогуле (загадчык ЖКГ, які на важных паперах раскладае бутэрброды), і людзі, якія свядома ідуць рабіць выбар, нават калі нешта перашкаджае (малады спартсмен з паламанай нагой, які хоча выбраць добрага кансьержа). Фільм атрымаўся даволі лаканічным: усяго за 8 хвілін аўтар расказвае кароткую, але змястоўную гісторыю.

Паглядзеўшы «Кансьержа», адразу знаходзіш у адным з герояў сябе: можа быць, гэта будзе кансьерж, якому абыякава на брудныя і распісаныя ліфты, можа быць, гэта будзе жанчына, якая вымушаная ісці па лесвіцы, бо ліфт зноў не працуе, і кажа, што «да ўсяго можна прызвычаіцца», можа, той самы спартсмен, які хоча зрабіць сумленны выбар. Так ці інакш, вось яно, кіно пра беларусаў — мы смяёмся з жартаў пра ліфты, і нам не патрэбен ніякі кансьерж.

Яшчэ адна стужка — «Заходнікі» Ягора Сурскага — фільм пра гісторыю, якую мы ніколі не прачытаем у падручніках, бо яе збіраюць «экспедытары па вуснай гісторыі». За паўгадзіны стужкі бачыш шмат рознага і прыгожага: пачынаючы ад галінак дрэва, якія ломяцца ад яблыкаў, і заканчваючы разбуранымі, нікому не вядомымі помнікамі.

«Заходнікі» — у сваім родзе фільм-прыпавесць пра тое, як жылі ў Беларусі тыя, хто беларусам першапачаткова не быў, пра тое, што робіцца з людзьмі зараз. Можна сказаць, стужка — скарбонка чалавечай мудрасці, бо там такое пачуеш: і гісторыі, як лавілі Махно, і як лепш збіраць каліну, і хто 50 год таму хутчэй выходзіў замуж. Можа, гэтыя гісторыі крыху наіўныя, часам казачныя, але шчырыя, а гэта якраз каштоўнае.

## ПРА ДОБРАЕ І ПРЫГОЖАЕ

У гэтым годзе на *CPM* прадстаўлены некалькі стужак пра Гродна: гэта «Таямніца гарбатай ямы» і «Толькі ў Гродна!». У першай стужцы мы бачым горад, які называюць самым прыгожым у Беларусі, з іншага боку, гэта бязлюдная ўскраіна, дзе злодзеі могуць «павысвятляць адносіны». Для мяне гэта фільм пра апошняе жаданне, прагу жыцця і розум чалавека, які ў жыццевыратавальнай сітуацыі можа нашмат больш, чым звычайна. Дарэчы, на фестывалі «Сенсацыйнае лета фільмаў» у Польшчы стужка атрымала другі прыз.

«Толькі ў Гродна!» — кіно, зноў жа, пра гісторыю. Калі ў «Заходніках» Беларусь пазнаецца праз успаміны, то тут мы знаёмімся з горадам праз музыку, праз песню, якую ведае кожны гродзенец. І хоць у ёй кажуць пра тое, што «шчаслівым можна быць толькі ў Гродне», самі гродзенцы не пагаджаюцца: чалавек здольны быць шчаслівым дзе заўгодна. Стужка — добры прыклад таго, як кіно здольны не проста прасачыць гісторыю, а яшчэ і стварыць гісторыю ўласную.



З фільма «Двухлапы сябра».

«Двухлапы сябра» — кіно пра дабрыню людзей, шчымлівая гісторыя пра хворага сабаку Лойда, якога ратавала сям'я. Сацыяльны мэсэдж — адрозненне гэтай стужкі ад іншых. Лойд, якому так неабходная была ўвага чалавека, знайшоў і яе, і сям'ю. Але што адметнага ў фільме: тут паказаны не толькі добры бок чалавека, але і дрэнны: каментарыі з інтэрнэту пра гісторыю Лойда, якія былі выкарыстаныя ў фільме, сведчаць, што людзі не гатовыя разумець дабрыню і чалавечнасць, яны кажуць, што «лепш дапамагаць людзям», чым сабаку. І толькі некаторыя прызнаюцца, што зноў знайшлі веру ў чалавецтва.

Ці не такія фільмы калі-небудзь зменяць свет?

Кіно пра прыгожае — «Пад другім вуглом» Вольгі Лабоўкінай: гэта і космас, і пачуцці, і танец. Што калі б мы хадзілі па столі? Што калі б мы маглі трымацца за жырандолю і танцаваць? Што калі б?.. Стужка расказвае пра тое, чаго не можа быць, што можна адчуць толькі ў космасе, што ператварае жыццё ў танец, а танец — у жыццё.

## ШТО РЭЖЫСЁРУ БАЛІЦЬ

Апошнім у праграме беларускага кіно быў фільм «Я жыву ў гэтым горадзе». Рэжысёр Ягор Сурскі кажа, што гісторыя стужкі пачалася нашмат раней, чым з'явілася яе задума: спачатку аўтар здымаў фільм пра сына свайго героя, а пасля падумаў і пра самага Арлена Кашкурэвіча: хацеў зрабіць паралель паміж мастаком і горадам. Так і атрымалася: «Я жыву ў гэтым горадзе» — гісторыя Мінска, расказаная мастаком. Гэта і асэнсаванне, чым для цябе з'яўляецца горад, у якім ты жывеш, і вызначэнне вобраза горада, гэта і пошукі душы горада ў яго жыхарах. Акрамя прыгожага Мінска, герой разважае пра самоту ў мегаполісах, пра тое, што ў горадзе лёгка знайсці сум і страціць свабоду, што жыць у вялікім горадзе — свайго роду выпрабаванне. Галоўнае тут — не зліцца з натоўпам…

Калі ж задумацца аб тым, якой тэмы бракуе ў беларускім кіно, то адказаць цяпер будзе не так цяжка. У нас усё ёсць: кіно пра горад, пра чалавека, пра выбар, пра дабрыню, пра своеасаблівае каханне. Важна, што беларускае кіно — шчырае, яно аб тым, што баліць і рэжысёру, і гледачам, яно пра тое, пра што нашае жыццё.

Але, на жаль, у кінатэатры «Перамога» на паказе беларускага кіно было няшмат людзей. Айчыннае пакуль не вабіць гледача так, як замежнае. І гэтаму ёсць тлумачэнне.

— Паглядзець беларускія стужкі на фестываль прыйшлі людзі, якія кіно разумеюць, — лічыць член журы, рэжысёр Раман Раманаў. — Я б назваў гэта фарміраваннем субкультуры: тут гледачы, для якіх прагляд фільма — культурны код, яны ў кіно разбіраюцца, яны «наглежданыя». І мне было цікава глядзець гэтыя фільмы, бо часам тут заўважыш нечаканы пагляд на рэчы і ўбачыш, як рэжысёры структуруюць жыццё з дапамогай камеры.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Чараўніцтва «Паўночнага ззяння»

**«Паўночнае ззянне» — фестываль кіно паўночных краін, займеў прыхільнікаў у Беларусі яшчэ летась. А ўжо на наступным тыдні ў мінскім і віцебскім кінатэатрах «Мір» пакажуць фільмы, якія закранаюць пытанні міру і паразумення.**

Сёлета ідэя «Паўночнага ззяння» — «Хараство штодзённага». Арганізатары тлумачаць: прыгожае можна ўбачыць у звыклых рэчах. Сёлета ў межах фестывалю пакажуць 8 стужак, якія раскажуць гледачам пра жыццё ў паўночных краінах і пазнаёмяць з асаблівасцямі менталітэту іх насельнікаў.

«Павандраваць» па Даніі можна, паглядзеўшы «Ітсібітсі» Оле Крысціяна Мадсэна. Гісторыя маладога змагара за мір Эйка, свет якога змяняе жанчына Ібэн. Вольналюбівая і сучасная (адлюстраваны 1962 год), яна не збіраецца прысвячаць сябе Эйку, а ён становіцца тым, у каго яна можа закахацца, — валацугам-пісьменнікам, паэтам і музыкам. І пачынаецца сумесная вандроўка.

Фільм швэдкі Саны Ленкен «Мая худзенькая сястра» будзе блізкі хаця б таму, што, напэўна, усе такое адчувалі: Стэла сталее і пакутуе — у яе нязграбная знешнасць, яна не адчувае сябе прыгожай і вар'яцкі любіць сваю сястру — худзенькую і прыгожую фігурыстку Кацю. Яна хоча быць падобнай да яе, але выпадкова даведваецца, што ў Каці анарэксія. Цяпер у яе ёсць выбар: ратаваць сястру, расказаўшы пра яе хваробу, ці прамаўчаць.

Героі стужкі Алексі Салменперы з Фінляндыі «Перашкоды» спрабуюць адказаць сваім спосабам на пытанні, якія ўзнікаюць штодня. Што рабіць, калі атрымалася, што ты супергерой? Як весці сябе на пахаванні сябра, якога насамрэч не існуе? Што рабіць, калі ты не памятаеш гадавіну ўласнага вяселля? Напрыклад, можна проста смяяцца.

«Супраць прыроды» — фільм Оле Г'явера з Нарвегіі пра маладога мужчыну Марціна, у якога, здавалася б, ёсць усё, што патрэбна для шчасця: жонка і сын, стабільная праца, прыгожы дом. Але ён хоча змяніць сваё жыццё, таму збягае ў горны паход. Нарвежскія ф'ёрды ашаламілі Марціна сваёй прыгажосцю, ён разумее, што вяртацца не хоча.

Свабода — вось, што чакае гледача ў ісландскім фільме «Лэнд Хо!» Аарана Каца і Марты Сцівенс. Два мужчыны (ім далёка за 50) вырашаюць паехаць на вакацыі ў Ісландыю. Прыгажосць мясцовых пейзажаў, танцы ў сталіцы краіны, флірт з маладымі жанчынамі — што яшчэ патрэбна чалавеку, каб адчуць сябе маладым?.. Стужку ўжо ацанілі на многіх фестывалях (напрыклад Сандэнс) і ў часопісах «*GQ*», «*Wall Street Journal*», «*Variety*». Шыкоўная альтэрнатыва (ці працяг) для тых, хто знаёмы з «Маладосцю» Паала Сарэнціна.

«Гара нявіннасці» — стужка рэжысёра Дагюр Каўры, якая расказвае гісторыю «ісландскага Форэста Гампа» Фусі. Яму 43, ён усё яшчэ жыве з маці, у яго няма дзяўчыны, таму і клічуць яго Гарой нявіннасці. Але штосьці ўсё ж такі прымусіць яго сацыялізавацца і пачаць пошукі кахання.

Дзіва «Паўночнага ззяння» — «Секс, наркотыкі і падаткаабкладанне» дацкага рэжысёра Крыстафера Баэ. Фільм пра тое, што значыць атрымліваць асалоду ад жыцця, стаўшы геніяльнымі махінатарамі. Фільм заснаваны на рэальных падзеях.

Блізка да нашай рэальнасці: Мар'я Пиюка з Фінляндыі зняла стужку пра тое, што ў вёску збіраецца прыехаць прэзідэнт. «Вясковыя жыхары» — кіно пра метамарфозы, якія могуць адбывацца з людзьмі, жывёламі і раслінамі, калі хутка павінен завітаць кіраўнік дзяржавы.

Карціны са Швецыі, Даніі, Фінляндыі, Нарвегіі і Ісландыі — фільмы прадстаўнікоў супольнасці з блізкай гісторыяй і традыцыямі, якімі арганізатары фестывалю хочуць падзяліцца з беларусамі і праз кіно пакінуць свой паўночны адбітак.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Запрашэнне ў іншы свет

**Беларускі графік Раман Сустаў — вынаходнік нашага часу. І яго герой. На яго карцінах шмат механізмаў, лабірынтаў, геаметрычна выверанах форм, а людзі як быццам складаюцца з медных пласцін, маленькіх дэталяў. На самай справе гэта хутчэй метафара, таму што яны моцныя духам, нібы сталь. Паўсюль пануе дух першаадкрывальніцтва, рамантыкі. Жанчыны носяць гарсэты, мужчыны — мудрагелістыя старадаўнія касцюмы. Стылізацыя розных эпох альбо стварэнне сваёй, асаблівай цывілізацыі? Графік не баіцца змешваць навуку і містыку. Ён ілюструе фантастычныя кнігі, выкладае ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Нядаўна яго выстаўка прайшла ў Польшчы. Запрашаюць больш у Еўропе, чым на радзіме. Чаму так адбываецца? Пра што мастак імкнецца распавесці сваёй творчасцю? З якімі праблемамі, на яго думку, сёння сутыкаюцца прадстаўнікі сучаснага мастацтва? Чаму, напрыклад, галерэйны бізнес для нас — нешта экстраардынарнае?**



*Фота Аляксандра Казанцава.*

*Раман Сустаў.*

## ЗМЕНА ФАРМАТУ, ЦІ СТРАЧАНАЯ ПРАСТОРА

«Аднойчы ў адным з бельгійскіх гарадкоў я сутыкнуўся з незвычайнай формай галерэй — у прыватным доме. У сям'і была вольная прастора на першым паверсе катэджа, дзе яны зладзілі выстаўку мастака. Цалкам бясплатна. Іншыя па гэтай жа модзе арганізавалі друкаваную графічную майстэрню, дзе аўтар мог і рабіць сваю працу, і праводзіць майстар-класы. Але да нас пакуль не дайшло такое разуменне мастацтва. Тым не менш сітуацыя павінна змяніцца ў хуткім часе. Хочацца, па крайняй меры, верыць», — распавядае Раман Сустаў.

На думку графіка, Мінску бракуе прасторнага, шматфункцыянальнага музея сучаснага мастацтва, дзе не толькі праходзілі б выстаўкі, але і працавалі майстэрні. Такі праект быў магчымы, калі б не «замарозіўся» па прычынах, хутчэй за ўсё, «выключна камерцыйнага падыходу» да будынка. Усё было амаль гатова: разлічана, з якога боку пасадзіць жывапісцаў, каб святло не было занадта яркім, дзе размясціць графікаў з іх друкаванымі станкамі і нават скульптараў, якія ствараюць творы ў некалькі метраў вышынёй.

Вялікі шкляны будынак мог упрыгожыць вуліцу Раманаўская Слабада, там, дзе сёння стаіць кінатэатр «Беларусь», і стаць годнай альтэрнатывай Палацу мастацтваў. Крыўдна, што і казаць. Якраз кінатэатраў у нас дастаткова.

Так, у сталіцы нядаўна быў утвораны Нацыянальны цэнтр сучасных мастацтваў — месца знакавае, вельмі актыўнае, якое не трапляе пад шаблоны. Але цэнтр знаходзіцца ў двух карпусах — на праспекце Незалежнасці, 47 і на Някрасава, 3, дзе калісьці былі майстэрні. А можна ж было аб'яднаць усіх гэтых таленавітых людзей, іх ідэі пад адным дахам, стварыць аб'ект, які стаў бы сімвалам сталіцы. Не горш за чарговую Мінск-Арэну альбо Нацыянальную бібліятэку.

«У маленькім гарадку, які знаходзіцца ў паўночнай Польшчы, Гданьску, які ў чатыры разы менш за нашу сталіцу, ёсць такога роду музей — проста шыкоўны!» — успамінае Раман Сустаў. Такія месцы можна смела ўключаць у даведнікі для турыстаў: яны будуць падымаць прэстыж краіны ў адрозненне ад бясконцых гандлёва-забаўляльных комплексаў невядома для каго, з цэннікамі вышэй за норму. Па словах мастака, мастацтву ў Беларусі не хапае «магнітнага інфармацыйнага воблака, што будзе прыцягваць увагу», каб на слыху былі імёны і прозвішчы мастакоў, якімі, між іншым, трэба ганарыцца.

Сваіх студэнтаў, будучых графікаў, Раман Сустаў называе спецназаўцамі. Яны сёння на вагу золата. Восем чалавек на курсе з усёй Беларусі, носьбітаў традыцый. Большасць паступае, скажам, на графічны дызайн — гэта нібыта перспектыўней. У мінулым годзе ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў амаль не было конкурсу на жывапіс і скульптуру. Прыходзь, падавай дакументы — і сардэчна запрашаем. У даперабудовачны час гэта былі адны з самых прэстыжных аддзяленняў.

Раман Сустаў сам марыў працаваць з глінай, таму што гэта іншы свет — аб'ёмы, фактура. Але лёс распарадзіўся па-свойму яшчэ ў дзяцінстве. Бацькі — графікі. Тата, Мікалай Казлоў, вядомы ў Беларусі мастак. Ілюзій у хлопчыка не было — была цвёрдая ўпэўненасць, што ўсё атрымаецца.

## ЭСТЭТЫКА СТЫМПАНКА І ПАРАД ПЛАНЕТ

Калі вы ўбачыце на адной з карцін волата з велізарным караблём на галаве, гэта, напэўна, «*Foundation*», а значыць, мужны Ной, што выратаваў чалавецтва. Праца прысвечана розуму і духоўнай сіле. Раман Сустаў любіць прадстаўляць тых, у каго ёсць унутраны патэнцыял, тых, хто хоча сваімі энергіяй, напорам і фантазіяй змяніць свет да лепшага. Тое самае можна сказаць і пра яго, аўтара.

У кожнай работы свая гісторыя. Графіка тым і добрая, што яе мова вельмі дэталёвая і ў той жа час ненадакучлівая. Тут не можа быць буйства фарбаў, як, напрыклад, у акварэлі, але ёсць насычанасць рыс. Раман Сустаў любіць прадстаўляць аб'екты, вобразы ў самых неардынарных кантэкстах.

Напрыклад, яму падабаецца стымпанк. Цяга да рамантыкі віктарыянскай эпохі, цывілізацыі «на пару», без бензіну і электронікі, з'явілася ў графіка гадоў 10 таму, калі гэты рух яшчэ не стаў мэйнстрымам. Так, графік — і прадказальнік у нейкай меры. На адной з карцін Траянскі конь нагадвае вялікі замак, складзены з магутных механічных дэталяў. Тая ж трансфармацыя і з людзьмі: многія з іх падобныя да рыцараў будучыні ў хітра сканструяваных даспехах.

Раман Сустаў захапляецца і кіберпанкам, фантастыкай зусім іншага «ракурсу», дзе паэтызуецца ўкараненне чалавека ў космас. Адсюль работы «Зорны пыл», «Пераход», «Зацьменне», «Месяц», «Бездань». Улюбёны матыў — планета, выразны графічны сімвал, які ўраўнаважвае багацце дэталяў.



*«Лавец сноў», 2015 г.*

У асноўным працы чорна-белыя, але час ад часу ў лаканічны дуэт урываецца чырвоны, асаблівым, эмацыянальным акордам. Мастак любіць эксперыментаваць.

Раман Сустаў працуе па класічных еўрапейскіх канонах гравюрнай тэхнікі. Ён даўёў да дасканаласці ліна-гравюру, стаў апрацоўваць лінолеум разцамі не груба і буйна, як было распаўсюджана раней, а дробнымі дэталямі, паслядоўна, карпатліва. На адну такую карціну ў яго сыходзіць да месяца.

Графік з задавальненнем паказаў у сваёй майстэрні, як вырабляюцца афорты. Працэдура не памянялася з XVI стагоддзя! На цынкавай пласціне, прыкладам, трэба выдрапаць малюнак, а потым пад ціскам перавесці яго на паперу. Часам трэба апускаць пласціну ў кіслату, каб выява пратравілася. Меца-тынта, акватынта, гравюра сухой іголкай — тэхнікі адрозніваюцца матэрыяламі, якія трэба выкарыстоўваць для канчатковага эфекту. Дзесьці пакрыць лакам, дзесьці прымяніць смалісты парашок.

«У апошні час з замовамі на ілюстрацыі напружана. Але я ўсё роўна працую. Афармляю, напрыклад, казкі нямецкага генія, Гофмана, падтрымліваю літаратурную творчасць сяброў», — дзеліцца Раман Сустаў.

Так ён афарміў дзіцячы прыгодніцкі раман Аляксея Шэйна «Сем камянёў» — фэнтэзі для падлеткаў, якога, дарэчы, у нас не так шмат. Папрацаваў над кнігай Валянціна Маслюкова «Нараджэнне чараўніцы». У Расіі яна стала бестселерам, потым яе перавыдалі ў нас. Выданні афармлены пад даўніну, у вокладцы пад скуру, з картамі фантастычных зямель... Хочацца насіць з сабой як талісман, пропуск у іншы свет.

Хутка Раман Сустаў аформіць новую серыю — «Хронікі Нарніі» на беларускай мове. «У крамах паліцы ломяцца ад кніг для малых, а для падлеткаў амаль нічога прыстойнага. Мы губляем гэтую аўдыторыю», — кажа ілюстратар.

Яшчэ ён актыўна займаецца экслібрысамі: стварае малыя графічныя формы, якія карыстаюцца папулярнасцю ў калекцыянераў па ўсім свеце.

## МАСТАЦТВА І ГРОШЫ

«Неабходна развіваць у Беларусі галерэйны бізнес. Павінны быць такія людзі, камерсанты, якія стаяць паміж мастаком, яго працамі і пакупніком, калекцыянерам. Не самому ж аўтару сябе расхвальваць! Прафесійныя галерысты, якія ўмеюць паднесці творчасць таго ці іншага майстра, і самі добра жывуць, і мастацтву дапамагаюць развівацца. А ў нас наогул іх няма», — распавядае графік.

Добра, што сталі з'яўляцца прыватныя мастацкія пляцоўкі: «Дом карцін», «Галерэя ДК», «*A & V art gallery*», «Імёны *art-boutique*». У апошняй, дарэчы, займаюцца продажам карцін.

«У нас ёсць людзі, якія могуць набыць твор мастацтва, але яны проста не ведаюць, навошта гэта трэба і дзе гэта зрабіць. Прасцей укласці сродкі ў італьянскую плітку — я не ўсюды рэкламую. Да мяне ад бацькі перайшлі ранняя графічныя працы Барыса Заборава, які цяпер паспяховы ў Францыі. Дык вось праз гады яны будуць каштаваць казачных грошай! Мастацтва — гэта выдатнае ўкладанне», — упэўнены Раман Сустаў.

«На душу насельніцтва ў сталіцы адкрываецца шмат выставак. Значна важней арганізоўваць буйныя вернісажы тыпу арт-праекта «Восеньскі салон» з Белгазпрамбанкам, дзе мастакі могуць не проста выстаўляцца, а, напрыклад, атрымаць прыз, заняць месца, прыняць удзел у конкурсе, заваяваць больш гледачоў і атрымаць эмацыянальны зарад! А не так, што, калі мы робім, напрыклад, экспазіцыю секцыі графікі акадэміі, то я сам афармляю працы, купляю рамы і шкло, прыводжу, стаўлю — і праз два тыдні забіраю. Туды прыходзіць дзясятак-два чалавек, шкло пабіта. Як быццам нічога і не адбылося. Толькі страты», — адзначае Раман Сустаў.

Мастацтву патрэбна атмасфера спаборніцтва, грамадскі рэзананс, адчуванне таго, што робіш не «для птушачкі». Нядаўна Раман Сустаў прымаў удзел у выстаўцы ў Польшчы. Проста таму, што яго туды запрасілі, праявілі ініцыятыву і цікавасць. Зразумела, на вернісаж прыйшлі не толькі, як тут часта бывае, сябры і знаёмыя, а звычайныя мінакі. Гэта падганяе наперад, натхняе.

«Кожная выстаўка мае патрэбу ў прыгожай падачы. Вы не стаміліся ад дакучлівых афіцыйных адкрыццяў, гэтых гурткоў ля мікрафона, калі вакол мастака збіраюцца ўсе, хто хоча абавязкова выступіць са сваёй прамовай? У Еўропе такое даўно ўжо не практыкуюць», — нагадвае Раман Сустаў. Сапраўды, людзі прыходзяць на вернісаж, каб спакойна паразмаўляць з аўтарам, з карысцю правесці час, самастойна атрымаць асалоду ад мастацтва. Трэба шукаць іншыя падыходы. Час не стаіць на месцы.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Можна дазволіць сабе цуд

На сваёй струне



Ларыса СІМАКОВІЧ, кампазітар

*Можна дазволіць сабе цуд і пачуць, як дыхае настоеная музыкай прастора. Яе дыханне — рухомая і пульсуючая матэрыя. Там — скрыжаванні мноства ліній, мелодый, інтанацый. Там — жывы малюнак нейкай неспасціжнай гульні, дзе кожнае імгненне змяняюцца і законы самой гульні, і яе змест, і дынаміка. Зіхаценне безлічы, мноства, бясконцасці. Там можна пачуць ціхія размовы творцы са сваім стварэннем, якія ніколі не заканчваюцца. Няма завершанасці ў гэтай прасторы. Няма. Музыка ствараецца зноў, як толькі пачынае гучаць…*

***Санату «quasi una Fantasia» (для фартэпіяна № 14 до-дыез мінор. 27, № 2) Людвіка ван Бетховена час ад часу можна пачуць у канцэртных залах гарадоў Беларусі. Шэдэўр, які мы перачытваем, пераглядаем, слухаем…***

**…БЕТХОВЕН…**

Яго можна было сустрэць у Боне, хадзіць за ім на ўскраіну Вены. Бачыць, як аднойчы паліцэйскія затрымалі Бетховена як жабрака. Той утаропіўся на сасіскі ў вітрыне кавярні. Адкуль паліцэйскім было ведаць, што можна глядзець на сасіскі і думаць пра нешта іншае? Што геній можа выглядаць неахайна — жабраком. Што «жабрак» можа спыніцца не толькі перад вітрынай. Ён можа прастаяць у лесе тры гадзіны запар пад дрэвамі і слухаць птушак. І радасна шалець ад рознагалосіцы птушыных спеваў. Паліцэйскіх Бетховен не чуў. Ён прывык быць глухім. Хаваўся ад людзей, блукаючы далёка ад цэнтра Вены. Прывык быць адзін, жыць без сустрэч і знаёмстваў. А зараз яму трэба было проста добра абдумаць накіданае сонечнай раніцай. Змалоўшы сабе роўна 64 зерні (ні зярняткам больш!) сваёй любімай кавы і, як звычайна, абліўшыся халоднай вадой з вялізнага жбана, ён гучна спяваў новую музычную тэму. Пакідаючы мокрыя сляды на падлозе, рашуча хадзіў па пакоі, кідаўся да блакнота, нешта запісваў і зноў ліў на сябе са жбана халодную ваду, часам не заўважаючы, што залівае суседзяў знізу.

І ўсё ж такі стоячы перад вітрынай з сасіскамі, у бетховенскай галаве менавіта тады нарадзіўся красамоўны афарызм: «Пакуль у венцаў ёсць сасіскі і піва, рэвалюцыі не будзе». Справядлівы прысуд лянівому і сonnаму чалавецтву.

Бон быў сведкам яго нараджэння, Вена — узлёту. Поспех, прызнанне, грошы — усё было ў 22-гадовага Бетховена. Ён шмат іграў, шмат пісаў. Быў ганаровым і жаданым госцем у кожным арыстакратычным доме. Па апошняй венскай модзе мог па-заліхвацку завязваць гальштук і грацыёзна танчыць у пакоях палаца князя Ліхноўскі. Ён не раз быў закаханым і акрыленым сваімі пачуццямі… Закаханага Бетховена лёгка тады было пазнаць па шпаркай і «раскіданай» хадзе.

У Вену Бетховен прыехаў за ведамі. Ён усведамляў, што набыты музычны досвед не адпавядае велічы ягонай творчай моцы, нягледзячы на тое, што ў 22 гады ён быў аўтарам 50 твораў. Праўда, гэта не так шмат у параўнанні з дваццацідвухгадовым Моцартам, урокі якога Бетховен памятаў, а дзве моцартаўскія музычныя тэмы, дадзеныя яму для імправізацыі, запомніў на ўсё жыццё. Моцарт тады быў у палоне стварэння свайго «Дон Жуана» і мог дазволіць сабе не заўважаць Бетховена. Аднак моцартаўскае «Звярніце ўвагу на яго, ён прымусіць усіх гаварыць пра сябе» засталося з Бетховеным як і моцартаўская адзнака ягоных імправізацый.

Але Моцарта няма. У Вене цяпер можна вучыцца толькі ў Гайдна і Сальеры. З Гайднам упершыню надарылася сустрэцца ў родным Боне. Вяртаючыся з Лондана ў Вену, аблашчаны славай кампазітар на адну ноч спыняецца ў Боне. Музыканты горада ладзяць урачыстую сустрэчу. Узнімаюцца тосты, гучаць словы прызнання. Гайдн замілаваны прыёмам не менш, чым творамі юнага Бетховена, і раіць яму ехаць у Вену, паабяцаўшы ўсяляк падтрымліваць.

Тры разы на тыдзень з новымі фугамі і эскізамі санат малады Бетховен наведваў Ё. Гайдна: «У гэтых работах шмат цудоўнага, нават здзіўляючага, — казаў Гайдн Бетховену, — «але нешта падаецца цёмным і дзіўным, бо Вы сам чалавек дзіўны і змрочны, а стыль кампазітара — гэта ён сам».

Таямніцы вакальнага пісьменства адкрываў А. Сальеры. Свой асабісты вакальны стыль Бетховену дапамог адкрыць менавіта ён.

Вучнем Бетховен быў свавольным і нараўістым, а яшчэ ўдзячным. Сваім настаўнікам ён прысвячаў творы. Зробленым памылкам, аднак, давяраў больш, чым парадам. «Правілы забараняюць такую паслядоўнасць акордаў!» — казалі яму. Ён дзёрзка адказваў: «А я яе дазваляю!.. Для таго, каб зрабіць нешта сапраўды цудоўнае, я гатовы парушыць любое правіла».

Чароўная Вена ўшанавала Бетховена перш-наперш не як кампазітара, а як піяніста-віртуоза. Гэта быў сапраўды залаты час Вены. Шалёная мода на аркестры, сямейныя квартэты, ансамблі. Кампазітары — ганаровыя госці шляхетных дамоў. Запрашаеш кампазітара ў госці, і табе забяспечаны новы, толькі што напісаны твор, які ўсцешыць удзячную публіку.

Венцам гэтага падалося замала. Венцы прыдумалі музычныя «акадэміі» — своеасаблівыя аўтарскія канцэрты, якія складаліся з вялікай, не менш як чатырохгадзіннай, разнастайнай праграмы. Для кожнай «акадэміі» рыхтавалася адмысловая праграма, цэнтрам якой быў новы фартэпіянны канцэрт. Сам аўтар яго выконваў, дырыжыруючы аркестрам, седзячы за клавікордамі. У знак павагі да слухачоў саліст граў толькі па нотах — такім чынам падкрэслівалася выключнасць першага выканання.

Бетховен-піяніст уражваў апантаным тэмпераментам, руйнаваў звыклыя выканальніцкія каноны, збіваў з ног слухачоў бурнымі, вогненнымі імправізацыямі. Фартэпіяна пад пальцамі Бетховена ператваралася ў маленькі аркестр, некаторыя пасажы стваралі ўражанне магутных гукавых плыняў.

Першыя шчаслівыя «акадэміі» маладога Бетховена зусім не падобныя на тыя, апошнія. Напрыканцы жыцця кампазітара публіку вымушала прыходзіць у тэатр не прага да мастацтва, а цікаўнасць глянуць на глухога Бетховена.

*Бетховена можна любіць таемна. Іграць Моцарта, захапляцца чысцінёй Гайдна. А любіць — Бетховена. Ціхаціха. Недзе ў глыбіні сябе самога. Разважаць пра жыццё музыканта. Нахабна браць Бетховена сабе ў сяброўства. Захапляцца не столькі бунтарствам, колькі невераго̀днай пяшчотай і чуйнасцю. Рэальнасць генія — новая разгорнутая прастора. Адзіная няздручнасць: геніяльнасць — маёмасць нябёсаў і не прыстасавана да зямнога жыцця.*

Жыццё нібы паставіла знак *fermato* на гэтым такце дзён — доўгім, тужлівым і нудным. Жыццё нібы спынілася.

«Свет знікае для мяне…» Свет знікае для Бетховена. Знікае як адпрацаваная рэальнасць. Дух патрабуе новых умоў для ўзвышэння і не асабліва клапоціцца, што пра гэта думае чалавек.

Пагрозлівае набліжэнне глухаты збівала звычайныя жыццёвыя арыенціры. Хіба магчыма дакрануцца да клавішаў і не пачуць узятага акорда? Звяртацца да аркестра і не пачуць галоўнай тэмы першых скрыпак? Майстар аглух. Свет знік. Застаўся бесперапынны аднатонавы звон у галаве і вушах. Майстар аглух. Але, па сутнасці, аглух не ён, а чалавецтва. Яму ж дараваўся новы слых: праз звон і шум — гучанне будучыні.

Пасля сыходу Моцарта тагачасная Еўропа прызнала Бетховена першым піяністам-віртуозам. Гэта быў час, калі яго жыццялюбства, абаяльнасць і розум былі ў цэнтры ўвагі арыстакратычнага асяроддзя музычнай Вены. Неверагодная папулярнасць забяспечвала насычанае прафесійнае жыццё. Ён падабаўся многім. Творы друкаваліся і разыходзіліся адразу пасля прэм'еры. Ён быў кумірам. У куміра хацелі браць урокі фартэпіяннай ігры.

**…ГВІЧАРДЗІ…**

А яна была надзвычай прывабная.

*…яна вышывала яму кашулі…*

Лёгкая, кемлівая, маладая, чароўная і здольная. Адна з лепшых вучаніц!

А якой яшчэ магла быць графіня Джульета Гвічардзі ў сямнаццаць год? Яна як быццам прыхапіла з сабой сваё італьянскае сонца. Бетховену хапіла промня. Сіроцкае дзяцінства, якое ён насіў у сабе ўсё жыццё і якое драмала на глыбіні пражытых страхаў, імгненна ажыло ў прысутнасці цяпла і спагады. Сямнаццацігадовая няўрымслівасць, лёгкасць і прамяністасць Джульеты Гвічардзі нібы абвяшчалі: жыццё з ёю ўратуе ад катастрафічнай непазбежнасці глухаты. Гэта прытулак, выратаванне, супакаенне. Да таго ж імя тваё — майго любімага Шэкспіра…



*Джульета Гвічардзі.*

*…яна вышывала яму кашулі…*

Лёгка з'яўлялася ў праёме дзвярэй бетховенскай кватэры, лёгка абмінала стосы нотнай паперы, перакуленыя рэчы, пераскоквала праз раскіданыя па падлозе рукапісы, партытуры, набліжалася да раяля, распавядаючы апошнія венскія навіны, нязмушана прысаджвалася, перагортвала ноты, грала музычны пасаж, выслухвала раздражнёнае бухценне свайго настаўніка, зноў грала, імгненна выпраўляла памылкі, бездакорна засвойваючы заўвагі і патрабаванні. З ёю Бетховену было лёгка.

*…яна вышывала яму кашулі…*

Яна была харашуня! Харашуня-графіня павінна была вучыцца толькі ў куміра венскай арыстакратыі. І кумір быў зачараваны. І грошай не ўзяў. Заняткі — кожны аўторак і пятніцу. Усе аўторкі і пятніцы імгненна сталі жаданымі і хвалюючымі. Усе аўторкі і пятніцы сталі сведкамі зараджэння кахання… Пазней — сведкамі ледзь не сямейных сцэн, калі раз'юшаны маэстра з прычыны няслушна ўзятага пасажу ў адчаі шпурляе ноты на падлогу і доўга не можа дараваць нядбайнасці сваёй вучаніцы… Каханне было ўзаемным. Джульета скарылася не толькі перад імем кампазітара, але і перад дзівацтвам Бетховена. І перад тэмпераментам. І перад яго высакародствам.

Трыццацігадовы Бетховен закахаўся імгненна. Яна ж дарыла яму кашулі, якія сама вышывала... Цэлы тузін — белых вышываных — кашуль!

«Я назіраю дзіўную перамену ў сабе менавіта дзякуючы ёй, гэтай дзівоснай дзяўчыне, якую я моцна кахаю, як і яна мяне…»

Заўважыўшы неахайна павязаны шаўковы бант, Джульета лёгка набліжалася да Бетховена, лёгка перавязвала, лёгка дакранылася да шчакі. А шчаслівы Бетховен цэлы тыдзень не здымаў таго адзення, як і шчасліва павязанага банта. Так ён выходзіў на шпацыр, так ствараў музыку. З павязаным Джульетай бантам палуднаваў, вячэраў, клаўся спаць.. Ён доўжыў імгненне…

«Толькі прачнуўся, а думкі мае лятуць да цябе, каханне маё! Радасць і сум пануюць пры думцы пра тое, што нам рыхтуе лёс. Я магу жыць толькі з табой, не інакш; я вырашыў да той пары блукаць далёка ад цябе, пакуль не змагу прыляцець з тым, каб кінуцца ў твае абдымкі, адчуваць цябе сваёй і атрымліваць асалоду ад гэтага шчасця… Ніякая іншая не авалодае маім сэрцам, ніколі, ніколі…»

*…яна вышывала яму кашулі…*

Але ў Бога былі іншыя планы…

Адчуваць сябе каханай Бетховена Джульеце падабалася. Падабалася здзіўляцца і захапляцца ім. Часам спачуваць. І ўсё ж вырашыла застацца графіняй: дапамагчы стаць геніем графу Галенбергу.

Ад адчаю і разгубленасці Бетховен быў выратаваны сваёй жа геніяльнасцю. Страх, разлад, крах, катастрофа, думкі пра самазабойства — усё трэба было перажыць. Свет зноў абваліўся. Знік. Жыццё страціла сэнс. Ці ёсць сэнс існаваць глухому музыканту? Кампазітару? На смех? На здзек? Каму патрэбны глухі піяніст-віртуоз? А каму патрэбны глухі настаўнік музыкі?

Катастрофа глухаты не магла быць спынена жаніцьбай на Джульеце. Свайму сябру-мастаку ён даваў парады як сабе: «Пішыце карціны. Я буду пісаць ноты. Так мы будзем жыць вечна. Да, можа быць, вечна!»

І Бетховен выбірае новае жыццё. Без сяброўства. Без атачэння. Без кахання. Жыццё пустэльніка. Схімніка. Сіроцтва неабароненай дзіцячай даланёй вярнулася, а ў руках Джульеты застаўся рукапіс — Саната для фартэпіяна № 14 до-дыез мінор. 27, № 2 «*quasi una Fantasia*».

Адрынутае каханне стала музыкай. Нязведаная рэальнасць рыхтавалася пісаць наступны сюжэт. У гэтым новым, абраным ім, жыцці яму належыць ненапісаная пакуль музыка. Бетховен пагадзіўся і з гэтым. Зрабіў крок туды, дзе яшчэ нікому не выпадала быць. Абсалютная глухата прынесла новае святло — нечуваную гукавую палітру.

…А Джульета вярнулася. Праз 20 год. Папрасіла грошай. Бетховен аддаў ледзь не ўсё, што было, але з умовай больш ніколі не прыходзіць. Яна выбрала здацца і назіраць. Здалёк. Боскі цяжар двайм не падняць: аднаму хіба. Таму… лепш здалёк… Зрабіць выгляд. Намуляць душу чым-небудзь іншым. Ён наладзіў сваё жыццё і пакінуў для сябе — сабе самога і… музыку.

*…Прысвячэнне — найвышэйшы энергетычны абмен. Гэта не толькі жэст удзячнасці. Гэта — аднаўленне нейкай найвышэйшай справядлівасці, усталяванне неабходнай раўнавагі нетутэйшага кшталту.*

# Філасофія блізкасці

## у творчасці мастацкай дынастыі Аракчэевых



Аксана Аракчэева побач з партрэтам «Мой тата».

**Сапраўдная, любімая дачка свайго бацькі. Так звычайна ў мастацкім асяродку Беларусі кажуць пра мастачку Аксану Аракчэеву, дачку заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, кавалера ордэна Францыска Скарыны, мастака Барыса Аракчэева. Сёлета яму павінна было споўніцца 90 год. З нагоды юбілею бацькі мастачка вырашыла арганізаваць серыю персанальных выставак, прысвечаных розным, магчыма, не да канца вядомым перыядам яго жыцця. З пачатку года прайшлі дзве выстаўкі, якія дэманстраваліся ў Магілёве і Крупках. А літаральна некалькі дзён таму ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбылося адкрыццё яшчэ аднаго выставачнага праекта — «Плывуць леты, нібы рэкі…».**

Перад уваходам у выставачную прастору ў вочы кідаецца вялікі партрэт Барыса Аракчэева, пад якім прымацавана маленькая паперка з подпісам «Мой тата». Нават непатрэбна слоў, каб зразумець, хто аўтар карціны і чаму, у адрозненні ад іншых партрэтаў і аўтапартрэтаў мастака, менавіта на гэтым палатне яго вочы не такія сур'ёзныя, як звычайна: у іх утойваецца бязмежная чалавечая дабрыня і заўважны агеньчык шчасця.

Выстаўкі такога плана для Аксаны Аракчэевай традыцыйныя. Штогод у сярэдзіне красавіка на розных выставачных пляцоўках яна прадстаўляе як бацькавы творы, якія дагэтуль захоўваліся ў майстэрні і яшчэ невядомыя гледачу, так і свае, заўсёды цікавыя па колеравым афармленні і сюжэтным выкананні. Сёлета наведвальнікам выстаўкі прапануюцца работы Барыса Аракчэева 1950 — 1960-х гадоў. Сярод іх — класічныя беларускія пейзажы, эцюды і малюнкі. У экспазіцыі можна ўбачыць нават заданні па чарчэнні 1952 года, зробленыя Барысам Уладзіміравічам падчас навучання ў Мінскай мастацкай вучэльні.

Невядомыя творы аднаго з перыядаў адлюстроўваюць Барыса Аракчэева знутры, даюць адзнаку яго індывідуальнасці, упэўненасці ў сваіх магчымасцях і мэтах.

«Наша сям'я не прадае работы таты, расказала карэспандэнту «ЛіМа» Аксана Аракчэева. — Усе яго карціны з розных перыядаў творчасці захоўваюцца ў майстэрні. Калі падыходзіць час, мы імкнёмся выбіраць самыя невядомыя і цікавыя творы. Пасля прывозім іх у музеі для знаёмства з гледачамі. Такая практыка не проста традыцыя, а важны, неабходны працэс маёй дзейнасці».

Акрамя твораў Барыса Уладзіміравіча, на выстаўцы дэманструецца серыя партрэтаў Аксаны Аракчэевай, зробленых у 2015 — 2016 гадах. На іх прадстаўлены блізкія сябры Аксаны і ў той жа момант знакамітыя беларускай публіцы дзеячы айчыннай культуры і літаратуры. Сярод іх — музыка, удзельнік вакальна-інструментальнага ансамбля «Песняры» Валерый Дайнэка, пісьменніца, аўтар шматлікіх казак для дзяцей, альбо, як яе яшчэ называюць «беларускі Андэрсэн», Алена Масла, вядучы і рэдактар канала «Культура» Беларускага радыё Уладзімір Трапянок, кіраўнік Тэатра танца «Прэм'ер-Спонайд» Вераніка Навіцкая і іншыя.



Барыс Аракчэеў «Вёска Повязынь. Хата, у якой жылі мастакі падчас пленэру», 1962 г.

Арыгінальнасць партрэтаў — у спосабе падачы: кожны чалавек адлюстраваны нібы герой з сучаснага мультфільма. Гэта нават своеасаблівыя шаржы з ідэяй: кожны чалавек павінен быць на сваім месцы, рабіць тое, што яму цікава і абавязкова патрэбна. Аўтар не паскупілася на колеры і прадставіла гасцям партрэты, насычаныя сонечнымі, вясновымі фарбамі.

Можна казаць, што творчасць мастацкай дынастыі Аракчэевых — гэта ўпэўнены шлях да аўтарскай індывідуальнасці кожнага з прадстаўнікоў. Барыс Аракчэеў — класік станковага жывапісу. Аксана Аракчэева не толькі дачка, але і вучаніца, якая даведалася мноства сакрэтаў ад галоўнага выкладчыка ў сваім жыцці і дзякуючы гэтаму знайшла свой мастацкі стыль.

**Вікторыя АСКЕРА,**
**фота аўтара**

## Культурны ракурс



Каталіцкая парафія ў Паставах утворана ў 1522 годзе, калі быў пабудаваны драўляны касцёл Маці Божай. Падчас руска-польскай вайны 1654 — 1657 гадоў быў цалкам знішчаны. У 1760 годзе пабудаваны новы каталіцкі храм, які да нашага часу не захаваўся: на яго месцы цяпер праваслаўная царква св. Мікалая.

У 1640 годзе каралеўскі сакратар Станіслаў Бяганскі выступіў ініцыятарам фундавання францішканскага кляштара ў Паставах, манастыр і храм пры ім былі пабудаваныя ў крутой лукавіне ракі Мядзелка. Пасля паўстання 1830 года кляштар быў зачынены, рэшткі манастырскай царквы разабралі. На яе месцы па праекце архітэктара Артура Гойбеля ў 1898 — 1904 гадах (па іншых дадзеных — у 1880 — 1887-х) быў узведзены сучасны неагатычны будынак з чырвонай цэглы. Яго ўзвялі на падмурку старой царквы манастыра, аднак новае збудаванне сарыентавана па лініі поўнач — поўдзень, у той час як старое мела традыцыйную арыентацыю ўсход — захад. Храм атрымаў імя святога Антонія Падуанскага.

Падчас Першай сусветнай касцёл быў моцна пашкоджаны. Пасля вайны Паставы апынуліся ў складзе Польшчы, храм быў адрэстаўраваны. У 1939 годзе Паставы ўвайшлі ў склад СССР, апошні пробашч Баляслаў Мацяеўскі быў арыштаваны і загінуў у сталінскіх лагерах. Храм зачынілі. Пасля Другой сусветнай вайны тут зрабілі склад, затым размясцілі цэхі прамысловага прадпрыемства.

Сёння касцёл святога Антонія Падуанскага — візітная картка Пастаў. Прыязджайце — шмат цікавага пабачыце!

**Алена САЎЧУК**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас **lim_new@mail.ru** з пазнакай **«Культурны ракурс»** — лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 14.04.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1748.

Кошт у розніцу — 4100 рублёў

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 1373

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686